



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 канапаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12 лютага 2016 года №7 **(1085)**




## Віляйчанам прапануюць выбраць назвы новых вуліц

старонка 2

## За якія паслугі будуць дадаткова плаціць жыхары кватэр і на чым можна зэканоміць

старонка 5

## Гісторыя жанчыны, якая ў 50 год прабегла марафон, а ў 69 паступіла ва ўніверсітэт

старонка 10



## Культурную сталіцу Беларусі ў 2016 годзе чакаюць:

рок-фестываль

конкурс мікрараёнаў

фестываль бардаўскай песні

гастролі тэатраў

выставы

# Маладзечанцы будуць купацца ў мастацтве

На здымку навучэнцы Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў Аляксандр Кананові і Аляксандр Снітко за кулісамі трымаюць сертыфікат, які пацвярджае званне культурнай сталіцы Беларусі – 2016. Ёй афіцыйна стала Маладзечна. Фота Настассі РОЎДЫ.

старонка 9

## У Маладзечне праверацць якасць пітной вады

**МАЛАДЗЕЧНА**

Якасць пітной вады, якая падаецца насельгорада Маладзечна, неабходна праверыць. Адпаведнае распараджэнне даў 8 лютага ў час прамой лініі з жыхарамі Мінскай вобласці старшыня абласнога выканаўчага камітэта **Сямён Шапіра**.

Нагодай да даручэння стаў званок гараджаніна. Мужчына распавёў кіраўніку сталічнага рэгіёна пра цэлы шэраг праблем, з якімі ён сутыкаецца пры карыстанні водаправоднай вадой. Паводле яго слоў, адным з найбольшых нараканняў – гэты непрыемны пах, які застаецца нават пасля кіпячэння. "Санэпідслужбе раёна неабходна правесці праверку, зрабіць замеры, вывучыць працэс ачысткі вады", – распарадзіўся старшыня аблвыканкама.

Пры гэтым Сямён Шапіра нагадаў, што ў шматлікіх населеных пунктах праблема з якасцю пітной вады, на жаль, з'яўляецца актуальнай. Адна з прычын – значнае ўтрыманне ў ёй жалеза.

*Старшыня аблвыканкама падкрэсліў, што ў Мінскай вобласці паспяхова рэалізацыя мерапрыемстваў дзяржаўнай праграмы па водазабеспячэнні і водаадвядзенні "Чыстая вада". "Будаўніцтва шэрагу станцый абезжалезвання вады яшчэ незавершанае. Пэўныя дзеянні ў гэтым напрамку намечаныя. Каб завяршыць у галіне ўсю працу па "Чыстай вадзе", рэалізаваць усе пачатыя праекты, трэба каля 500 мільярдаў рублёў у няпросты для эканомікі час", – канкрэтызаваў Сямён Шапіра.*

Усяго за час тэлефонных зносін з грамадзянамі Сямён Шапіра разгледзеў 14 зваротаў.

**Паводле БЕЛТА.**

### Удакладненне

У мінулым нумары газеты (5 лютага 2016 года, "Рэгіянальная газета" №6) дапушчаная тэхнічная памылка.

На другой старонцы ў артыкуле "Рабочыя "Будаўніка" не вінаватыя" ў тым, што мы трапілі ў абцугі" не пазначана, каму належаць словы: "Будаўнічых арганізацый у Маладзечне многа, і, вядома, працы хапае не ўсім. Тэндары выйграваюць праверанныя арганізацыі, якія не дапускаюць здачы аб'ектаў не ў тэрмін". Гэта сказаў старшыня Маладзечанскага райвыканкама Аляксандр Яхнавец падчас планёркі ў райвыканкаме.

Просім прабачэння ў чытачоў.

# Віляйчанам прапануюць выбраць назвы новых вуліц

**ВІЛЕЙКА**

### Яны будуць у новым раёне індывідуальнай жылой забудовы "Паўночны-4".

– Праект яго распрацаваны і рэалізаваны. Каб пачаць будаўніцтва, трэба грамадзянам выдзеліць участкі з адпаведным адрасам, – тлумачыць начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва райвыканкама **Галіна Кажарновіч** – Узнікла ідэя, каб назваць вуліцы імёнамі нашых землякоў.

Плануецца, што ў "Паўночным-4" будзе чатыры вуліцы. Райвыканкам прапануе віляйчанам разгледзець восем варыянтаў назваў. Імёнамі, якія наберуць больш галасоў, і назавуць новыя вуліцы.

Прагаласаваць можна да 25 лютага. Паведаміць свой выбар можна па нумарах (801771) 5-42-62 (аддзел архітэктуры і будаўніцтва), (801771) 5-57-47 (раённы Савет дэпутатаў). Таксама можаце патэлефанаваць у "Рэгіянальную газету" – (80176) 76-96-67.

Ці напісаць на адрас: аддзел архітэктуры і будаўніцтва, Вілейскі райвыканкам, вуліца Партызанская, 40, 222410, Вілейка.

Таксама пакінуць свой голас можна ў галасаванні на сайце "Рэгіянальнай газеты" rh.by.

### Якія варыянты прапануюць

1. **Іван Кандрацьеў** (1849-1904) – паэт, песеннік, пісьменнік, гісторык, масквазнаўца, перакладчык. Аўтар песні "Па дзікім стэпам Забайкалля". Нарадзіўся Кандрацьеў ў сям'і ваеннага вёскі Каловічы Вілейскага павета Віленскай губерні.

Кандрацьеў з'яўляецца аўтарам рамана ( "Салтычыха"), апавесцяў, драматычных карцін у вершах ("Смерць Атылы", "Пушкін у цыганоў", "Пір Сцяпана Разіна"), гістарычных нарысаў ("Сівая даўніна Масквы"), вершаў, перакладаў.

2. **Уладзіслаў Стрмінскі** (1893-1952) – герой Першай сусветнай вайны, беларускі і польскі мастак, прадстаўнік авангарда мастацтва, вучань і паплечнік Казіміра Малевіча, заснавальнік напрамку ў сучасным мастацтве – унізму. Некаторы час жыў і працаваў у Вілейцы. Тут з'яўляецца самы знакаміты і першы з ваенных цыклаў малюнкаў мастака пад назвай "Заходняя Беларусь".

Менавіта ў Вілейцы Страмінскі сфармуляваў прынцыпы "ўнізму" – канструктывісцкай канцэпцыі, якая сцвярджала адзінства колеру, лініі і рытму ў жывапісе.

3. **Ганна Новік** (1914-1997) – беларуская паэтка, удзельніца нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі на Вілейшчыне, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, грамадскі дзеяч, член Саюза пісьменнікаў. Карэнная віляйчанка, хоць і нарадзілася, і некалькі месяцаў пражыла ў Аўгустове, цяпер Польшча, дзе яе бацькі працавалі. Нарадзілася ў сям'і выхадцаў з Вілейшчыны: бацька паходзіў з вёскі Варонічы, маці – з Іжы. Пачала друкавацца ад 1937 года. Амаль усё жыццё пражыла ў Варонічах, а яе творчасць прасякнутая любоўю да роднай Вілейшчыны.

4. **Максім Танк**, сапраўднае імя **Яўген Іванавіч Скурко** (1912-1995) – беларускі савецкі паэт, перакладчык, дзяржаўны дзеяч. Народны паэт Беларускай ССР.

Нарадзіўся ў вёсцы Пількаўшчына (цяпер Мядзельскі раён) у сялянскай сям'і. Жыццё і творчасць Максіма Танка цесна звязаны з Вілейшчынай. Ад 1926 да 1928 года ён вучыўся ў Вілейскай рускай гімназіі. З восені 1939 года Максім Танк працаваў у сектары нацыянальных школ Вілейскага абласнога аддзела народнай адукацыі. Адначасна з'яўляўся літработнікам у абласной газеце "Вілейская праўда".

5. **Аляксандр Азончык** (1908-1995). Герой Савецкага Саюза, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, камандзір партызанскага атрада "Патрыёт" брыгады імя Будзённага Беларускага штаба партызанскага руху. Усяго атрад "Патрыёт" здзейсніў 439 баявых аперацый.

6. **Міхаіл Казінец**. Нарадзіўся 18 мая 1938 года ў вёсцы Цынцавічы Вілейскага раёна.

Пасля заканчэння сямігодкі ў роднай вёсцы пайшоў вучыцца ў Вілейскую сярэднюю школу. Адначасова вучыўся ў мясцовым філіяле Маладзечанскай музычнай школы, якую скончыў па класе баяна за тры гады.

У 1975 годзе Міхаіл Казінец стаў мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам аркестра (цяпер Нацыянальны дзяржаўны акадэмічны народны аркестр Беларусі імя Іосіфа Жыновіча). На працягу 20 гадоў ён быў рэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Дзейнасць Міхаіла Казінца адзначаная ганаровым званнем – народны артыст Беларусі, ён – заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі і прэміі "За духоўнае адраджэнне", узнагароджаны медалём і ордэнам Францішка Скарыны.

7. **Анатоль Рогач** (1947- 2010) – беларускі краязнаўца, даследчык гісторыі Вілейшчыны і Беларускага Павілля, інжынер-энергетык, дэпутат Вілейскага раённага Савета, майстар спорту па шашках. Нарадзіўся ў вёсцы Каралеўцы Вілейскага раёна. Узначальваў РЭС ад 1988 года. Анатоль Рогач спалучаў вытворчую і дэпутацкую дзейнасць з краязнаўчай. Ён – адзін з самых аўтарытэтных даследчыкаў жыцця і творчасці нашых землякоў **Адама Гурыновіча, Ігната Ходзькі, Эдварда Жалігоўскага**. Анатоль Рогач першым на Вілейшчыне і адным з першых у Беларусі звярнуў увагу на біяграфію аўтара першай украінскай канстытуцыі, гетмана Украіны, ураджэнца вёскі Касута **Піліпа Орліка**. Дзякуючы яму ўстаноўленыя дзясяткі памятных знакаў выдатным асобам і падзеям на Вілейшчыне.

8. **Іван Лашутка** (1933-2004) – педагог, паэт, публіцыст, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Нарадзіўся ў вёсцы Баяры Вілейскага раёна ў 1933 годзе.

Педагагічную працу спалучаў з літаратурнай творчасцю. Івану Лашутку належаць зборнікі вершаў "Свята дваіх" (1992 г.), "Край верасоў" (2000 г.), "Святло слова" (2003 г.). З 1996 года – член Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1993 годзе ўдастоены Спецыяльнага прыза Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, а таксама Спецыяльнага прыза ў галіне паэзіі. Песня на верш І. Лашуткі "Край мой верасовы" стала гімнам Вілейшчыны.

**Аддзел інфармацыі.**



Віляйчане выберуць назвы вуліц у новым раёне.



Іван Кандрацьеў.



Аляксандр Азончык.



Уладзіслаў Страмінскі.



Міхаіл Казінец.



Ганна Новік.



Анатоль Рогач.



Максім Танк.



Іван Лашутка.

# Найбольш зараблялі ў рэгіёне летась на Астравеччыне

## Рэальны заробак знізіўся ва ўсіх раёнах

**Ні ў адным раёне нашага рэгіёна намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата за 2015 год не дасягнула шасці мільёнаў рублёў.**

Найбліжэй да гэтай лічбы яна падабралася ў Астравецкім раёне – не хапіла ўсяго дзевяці з паловай тысяч.

На другім месцы ў рэгіёне – Маладзечаншчына з сярэднім заробкам у пяць мільёнаў 821 тысячу рублёў. У тройцы лідараў – Смаргонскі раён. Там у сярэднім штомесяц летась налічвалі па пяць мільёнаў 540 тысяч.

На Ашмяншчыне сярэдні заробак склаў пяць мільёнаў 483 тысячы рублёў,

у Валожынскім раёне – 5 мільёнаў 418 тысяч. На дзве тысячы меншы ён на Мядзельшчыне.

Найніжэйшы ў рэгіёне налічаны заробак на Вілейшчыне – пяць мільёнаў 378 тысяч рублёў.

Паглядзім, якая сітуацыя ў рэгіёне з рэальным заробкам – гэта зарплата, разлічаная з улікам росту спажывецкіх цэн на тавары і паслугі.

Рэальны заробак за 2015 год у адносінах да 2014 знізіўся ва ўсіх раёнах.

Найменш ён упаў у Вілейскім і Астравецкім раёнах, найбольш у – Смаргонскім і Маладзечанскім. Падрабязныя лічбы можна пабачыць у інфаграфіцы ніжэй.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Налічаная сярэднямесячная зарплата за 2015 год




### Суадносіны рэальнага заробку ў 2015 годзе ў параўнанні да 2014




Інфаграфіка Алеся ВЫСОЦКАГА

Інфармацыя падрыхтаваная па дадзеных Галоўных статыстычных упраўленняў Мінскай і Гродзенскай абласцей.

## Ад 10 сакавіка ў аўтобусах Маладзечна перастануць дзейнічаць талоны з кіёскаў і ад кіроўцаў

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі аўтапарк ад 10 сакавіка лічыць праезд аплачаным толькі па разавых білетах, якія пасажыры набываюць у кандуктара-кантралёра. На сёння цана білета 4 000 рублёў.

У выключных выпадках, пры адсутнасці кандуктара-кантралёра, у маршрутах з малым пасажырапатокам білет можна набыць у кіроўцы таксама па цане 4 000 рублёў.

У гарадскіх аўтобусах будуць дзейнічаць месячныя і дэкадныя праязныя, а таксама дакументы, якія пацвярджаюць права на бясплатны праезд.

Аўтапарк удакладняе, што продаж разавых талонаў праз кіёскі і кіроўцаў па цане 4 500 рублёў быў вымушанай і часовай мерай. Ён быў уведзены ў верасні 2013 года.




Фота "РГ".

Такія талоны пасля 10 сакавіка будуць несапраўдныя.

Таму талоны такога ўзору варта скарыстаць да 9 сакавіка. Пасля 10 сакавіка яны будуць несапраўдныя.

**Паводле паведамлення адміністрацыі аўтапарка №4.**



Інфаграфіка Галіны СІНІЦЫ.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**1** пара з гарадоў рэгіёна возьме шлюб 14 лютага, на Дзень закаханых. Вяселле будзе ў Смаргоні

Напярэдадні, 13 лютага, возьмуць шлюб **5** пар:
**4** – у Маладзечне
**1** – у Смаргоні

Паводле ЗАГСаў рэгіёна.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 4.02 | 11.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 21 718,00 | **22 069,00** |
| Еўра | 23 676,00 | **24 842,00** |
| Злоты | 5 387,54 | **5 519,42** |
| Расійскі рубель | 274,07 | **279,08** |
| Грыўня | 846,71 | **844,58** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 10.02** | | |
| Еўра | 23 300/23 700 | **24400/24900** |
| Долар ЗША | 21 400/21 750 | **21800/22050** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 3.02 | 10.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 151 300 | **151 300** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 800 | **28 900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | **70 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 42 500 | **42 500** |
| Селядзец, 1 кг | 52 000 | **52 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 138 000 | **138 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 500 | **17 500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 15 000 | **16 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 25 000 | **25 000** |
| Маянэз, 200 г | 7 700 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 500 | **7 500** |
| Часнок, 1 кг | 54 500 | **58 500** |
| Капуста, 1 кг | 5 900 | **5 500** |
| Морква, 1 кг | 6 500 | **6 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 70 000 | **69 000** |
| Лімоны, 1 кг | 39 500 | **43 500** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 500 | **27 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 27 000 | **27 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 25 000 | **24 000** |
| Ківі, 1 кг | 29 500 | **29 500** |
| Буракі, 1 кг | 5 500 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 37 000 | **33 000** |
| Агуркі, 1 кг | 35 000 | **35 000** |
| Перац, 1 кг | 60 000 | **60 000** |
| Вінаград, 1 кг | 35 000 | **35 000** |
| Бананы, 1 кг | 24 500 | **25 000** |
| Хурма, 1 кг | 28 500 | **29 000** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 39 000 | **45 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 14 000 | **13 500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 25 000 | **22 000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 5 000 | **4 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

## Ля згарэлай "Аўдзі" знайшлі мёртвага ўладальніка

ВІЛЕЙКА

**Удзень 7 лютага выратавальнікам паведамілі, што гарыць аўто ў гаражным кааператыве №5 па вуліцы Валынца.**

Гарэла "Аўдзі-80" выпуску сярэдзіны 80-х гадоў. У метрах сямі ад аўтамабіля ляжаў яго 63-гадовы ўладальнік.

Яго перадалі брыгадзе "хуткай дапамогі". Пасля правядзення сардэчна-лёгачнай рэанімацыі доктар канстатаваў смерць. На целе мужчыны апёкаў не было, адзенне на ім не гарэла.

Як мяркуецца, прычынай смерці стаў інфаркт.

Відавочцы бачылі, як мужчына бег з вядром, шукаў ваду. Вады каля іх не было, і ён пабег далей. Потым заўважылі дым ля яго гаража і ўбачылі, як мужчына упаў ля машыны і больш не падымаўся. Выклікалі "хуткую дапамогу" і выратавальнікаў.

Адразу аўтамабіль знаходзіўся ў гаражы. Магчыма, што яго раманталі і ўзнікла загаранне. Верагодна, мужчына сам выштурхнуў аўтамабіль, што загарэўся, з гаража і спрабаваў яго тушыць.

Са слоў сваякоў, мужчына раней ляжаў у бальніцы з інсультам.

Пра здарэнне расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Аляксандр Казакевіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Вілейцы на пажары загінуў мужчына

ВІЛЕЙКА

**Гарэў жылы дом па вуліцы Садовай у райцэнтры. Паведамленне пра гэта паступіла выратавальнікам пасля васьмі гадзін вечара 2 лютага.**

Калі яны прыбылі на месца, з-пад даху драўлянага дома ішоў дым.

Выратавальнікі на ложку знайшлі 62-гадовага гаспадара – на жаль, ужо без прыкмет жыцця.

У выніку пажару закураныя сцены ў жылым доме, пашкоджаная маёмасць у кухні.

Дакладная прычына пажару ўстанаўліваецца. Разглядаюцца дзве версіі: неасцярожнасць пры курэнні ці неасцярожнае абыходжанне з агнём (пакінутая без нагляду запаленая свечка). У доме была адключаная электраэнергія, паведаміў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Аляксандр Казакевіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Паехаў на заробкі ў Карэлію і знік

МЯДЗЕЛ

**Райаддзел Следчага камітэта вышуквае 29-гадовага Мікалая Вараб'я. Ён – ураджэнец вёскі Зані Мядзельскага раёна, жыў у Раманаўшчыне.**



У канцы жніўня 2015 года мужчына паехаў на заробкі ў горад Петразаводск у Карэліі ў Расійскай Федэрацыі. Да цяперашняга часу месцазнаходжанне Мікалая невядомае.

**Прыкметы:** на выгляд 30 год, рост 180-185 сантыметраў, сярэдняга целаскладу, авальны твар, прамыя бровы, блакітныя вочы, прамыя светла-русыя коратка стрыжаныя валасы, моцны голас, 42-43 памер нагі. Пры сабе меў пашпарт.

**З асаблівых прыкмет:** на левай частцы грудзей сіняя татуіроўка ў выглядзе галавы тыгра, у ніжняй правай частцы шыі злева – шрам ад апераццыі даўжынёй да 15 сантыметраў, шрам злева на твары.

Просьба да тых, хто мае інфармацыю пра магчымае месцазнаходжанне Мікалая Вараб'я і хто працаваў з ім у Расіі, паведаміць у Мядзельскі райаддзел Следчага камітэта па нумары **8-01797-55864**, або ў Мядзельскі РАУС – **8-01797-55471, 102**.

**Мядзельскі райаддзел Следчага камітэта Беларусі.**

# Як беларусы "кінулі" расіян на фуру мяса

ВАЛОЖЫН

**Крымінальная гісторыя злачыннай групоўкі, дзе адны падставілі іншых і ўсе разам трапілі ў пастку.**



Фота s4.pikabu.ru.

Разблытвацца крымінальны клубок пачаў на Валожыншчыне.

Двое жыхароў Смаленскай вобласці прыехалі ў Беларусь, каб набыць цэлую фуру мяса. Яны звярнуліся па дапамогу да свайго знаёмага беларуса. Той паабяцаў дапамагчы, тым больш, што расіяне прапаноўвалі добрую ўзнагароду. Аднак неўзабаве высветлілася, што ўсё ідзе інакш.

> **Беларус уцягнуў у справу свайго знаёмага – дырэктара кампаніі-перавозчыка, які ўжо меў у мінулым нелады з законам.**

Спачатку для расіян усё ішло нармальна. Беларускі знаёмы знайшоў за нядорага фуру-рэфрыжэратар з кіроўцам і арганізаваў нарыхтоўку мяса ў індывідуальных прадпрымальнікаў. Ад раніцы да вечара, пакуль расіяне скупялі ў прадпрымальнікаў мяса і напаўнялі ім рэфрыжэратар, іх беларускі знаёмы разам з уладальнікам рэфрыжэратара распрацоўвалі схему, як адабраць мяса. І падбіралі мясаперапрацоўчы цэх, куды мяса ў далейшым можна будзе адвезці.

У прызначаны дзень перад расіянамі разыгралі сапраўдны спектакль. Увечары на тэлефон кіроўцы рэфрыжэратара паступіў званок ад дырэктара з указаннем рабіць тое, што яму скажуць.

Калі кіроўца фуры праязджаў Валожыншчыну, машыну спыніў чалавек у камуфляжы, што стаяў побач з аўто з пробліскавымі маячкамі.

Расіяніну, які быў у кабіне побач з кіроўцам, мужчына заявіў, што дакументы на мяса выклікаюць сумнеў, таму машына з грузам будзе дастаўленая ў Валожынскі РАУС для праверкі. І што, хутчэй за ўсё, мяса канфіскуюць. Расіяніну прапанавалі выйсці з кабіны, а фура ў суправаджэнні машыны з мігалкамі з'ехала.

Пастаяўшы некаторы час на абочыне дарогі і паразважаўшы пра тое, як ён будзе даваць спраўздачу заказчыку па выдатках на амаль сорак тысяч долараў, расіянін прыехаў у Валожынскі РАУС. І гэтым вельмі здзівіў супрацоўнікаў міліцыі, таму што ніякую фуру яны не спынялі і не затрымлівалі.

Аказалася, беларус палічыў, што расіянін не будзе звяртацца ў міліцыю, паколькі дакументаў на груз у яго няма, і вырашыць проста сцягціць груз замест таго, каб потым яшчэ дадаткова плаціць штраф. Не ўлічыў беларус толькі таго, што грошы былі трэцяй асобы. Для расіян лепей было звярнуцца ў міліцыю, чым проста развесці рукамі перад сваім крэдытарам, выставіўшы сябе ашуканцамі.

> **Як прызналіся расіяне аператыўнікам, яны і ўявіць не маглі, што ў Беларусі іх "кінуць" як у ліхія 90-я ў Расіі, таму ехалі сюды са спакойнай душой і цалкам давяралі свайму знаёмаму беларусу.**

Літаральна на наступны дзень супрацоўнікі Валожынскага РАУС знайшлі кіроўцу фуры. Мужчына цалкам пацвердзіў словы расіяніна – іх увечары спыніў чалавек у камуфляжы, прадставіўся супрацоўнікам міліцыі, суправадзілі машыну на нейкі мясакамбінат, дзе мяса выгрузілі, нібыта на захоўванне, пакуль будзе праводзіцца праверка. Аднак калі да справы падключыліся аператыўнікі крымінальнага вышуку УУС Мінаблвыканкама і пагаварылі яшчэ раз з кіроўцам, ужо з выкарыстаннем паліграфа, усплыў цікавы званок ад уладальніка рэфрыжэратара напярэдадні "затрымання", а таксама яшчэ некаторыя новыя дэталі. А далей, як той казаў, справа тэхнікі.

Цяпер устаноўленыя асобы ўсіх магчымых удзельнікаў групоўкі, якія затрыманыя па падазрэнні ў злачынстве.

Валожынскі райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу.

**Паводле Сяргея БАСЬКО, аддзяленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Мінаблвыканкама.**

> **Даведка "РГ".** **Паліграф –** дэтэктар хлусні.

## Рабаўнікоў дапамаглі затрымаць дзве жанчыны

СМАРГОНЬ

**У панядзелак, 8 лютага, каля дзевяці вечара 55-гадовая жанчына праз гарадскі парк вярталася дадому.**

У парку было нешматлюдна, таму, калі жанчыну абагналі двое 20-гадовых хлопцаў, яна сцяміла, што сумку, у якой былі грошы і мабільны тэлефон, усё ж лепей прыцісунуць да сябе.

І толькі яна так падумала, як да яе з-за спіны падскочыў трэці хлопец і стаў цягнуць сумку на сябе.

Але жанчына вельмі моцна трымалася за сваю маёмасць, і зламыснік так і не здолеў выхапіць чужую рэч. Зразумеўшы, што яго спробы безвыніковыя, – збег.

Жанчына патэлефанавала ў міліцыю. Аказалася, што не яна першая.

За гадзіну да гэтага непадалёк ад парку дадому вярталася 57-гадовая выхавальніца дзіцячага садка. На пешаходным пераходзе ля царквы ў яе паспрабаваў адабраць сумку сябар таго зламысніка з парку. Але жанчына аказалася дужэйшай за 20-гадовага хлопца.

Па гарачых слядах кампанію кідкіх да чужых сумачак маладых людзей затрымалі.

Гісторыю расказаў начальнік Следчага камітэта Смаргонскага РАУС **Андрэй Рэзін**.

**Наталля ТУР.**

# За якія паслугі будуць дадаткова плаціць жыхары кватэр

## На чым можна зэканоміць

**Хутка жыхары шматкватэрных дамоў атрымаюць жыроўкі за студзень. У іх з'явяцца новыя радкі за паслугі, якія трэба аплаціць. За што будуць плаціць людзі, разбіраемся разам у артыкуле.**



Фота miuz.org.

Жыхары шматкватэрнага дома могуць заключыць дамову, у якой абгавораць пажаданні да прыбірання, напрыклад, перыядычнасць, якасць. Калі ж хочуць зэканоміць, то могуць прыбіраць самастойна.

Гэта звязана з указам ад 31 снежня 2015 года "Аб прадастаўленні жыллёва-камунальных паслуг". Ён накіраваны на тое, каб удасканаліць парадак прадастаўлення асобных паслуг і знізіць затраты на іх аказанне.

31 снежня 2015 года прынялі ўказ "Аб прадастаўленні жыллёва-камунальных паслуг". Ён накіраваны на тое, каб удасканаліць парадак прадастаўлення асобных паслуг і знізіць затраты на іх аказанне.

Дакумент уносіць яснасць такой паслугі, як тэхнічнае абслугоўванне.

Тэхнічнае абслугоўванне ўключае работы па падтрыманні ў спраўным стане канструкцыйных элементаў пабудоў, інжынерных сістэм, за выключэннем ліфтаў; падрыхтоўку жылых дамоў да эксплуатацыі ў вясеннелетні і асенне-зімовы перыяды. У пераліку засталіся толькі тыя віды работ, якія непасрэдна ўплываюць на тэхнічны стан пабудовы і тое, што не могуць выканаць самі жыхары.

### На чым можна зэканоміць

1. Прыбіранне пад'ездаў і агульных месцаў карыстання (ліфты, падвалы).

Каб не плаціць за гэта, жыхары могуць прыняць рашэнне самастойна прыбіраць агульныя месцы карыстання. Пры гэтым санітарны стан будзе кантраляваць Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі раёна.

Таксама жыхары могуць заключыць дамову, у якой абгавораць пажаданні да прыбірання, напрыклад, перыядычнасць, якасць.

2. Не размалёўвайце сцены, не псуйце маёмасць у пад'ездзе – і ваш бюджэт будзе ў норме.

Паводле ўказа, факты вандалізму ў пад'ездах будуць ліквідоўвацца за кошт жыхароў у межах бягучага рамонту.

3. Асвятленне ў месцах агульнага карыстання.

Каб не аддаваць грошы на кругласутачнае асвятленне, жыхары могуць устанавіць акустычныя датчыкі, святлодыёдныя лямпы для эканоміі электраэнергіі.

**Паводле pravo.by.**

### Што змянілася пасля прыняцця ўказа

| Да прыняцця ўказа | Хто плаціць | Пасля прыняцця ўказа | Хто плаціць |
|---|---|---|---|
| **Тэхнічнае абслугоўванне** | | | |
| Абслугоўванне канструкцыйных элементаў і інжынерных сістэм пабудоў, прыбіранне пад'ездаў, асвятленне месцаў грамадскага карыстання, прыбіранне тэрыторыі ля дома, рамонт пакрыццяў праездаў, праходаў, догляд за зялёнымі насаджэннямі | 70% бюджэт 30% насельнікі | Абслугоўванне канструкцыйных элементаў і інжынерных сістэм пабудоў | 20% бюджэт 80% насельнікі |
| | | Санітарнае ўтрыманне дапаможных памяшканняў жылога дома: прыбіранне пад'ездаў, асвятленне месцаў агульнага карыстання (выдзяляецца ў асобную жыллёва-камунальную паслугу) | 100% насельнікі |
| | | Работы па добраўпарадкаванні: прыбіранне тэрыторыі ля дома, рамонт праездаў і праходаў, догляд за зялёнымі насаджэннямі | 100% мясцовы бюджэт |
| **Карыстанне ліфтам** | | | |
| Расход за электраэнергію, якая выкарыстоўваецца на рух ліфта) | Тарыф у разліку на чалавека (у сярэднім) 70% бюджэт, 30% за кошт насельніцтва | Тэхнічнае абслугоўванне ліфта | Тарыф з разліку квадратнага метра плошчы кватэры |
| | | Пакрыццё расходаў на электраэнергію, якая выкарыстоўваецца на рух ліфта | 100% за кошт насельнікаў (тарыф у разліку на чалавека) |

## Місіс Маладзечна-2016 абяруць сярод замужніх прыгажунь, якія ўжо маюць дзяцей

МАЛАДЗЕЧНА

**Конкурс правядуць у раённым Цэнтры культуры (былы Дом культуры чыгуначнікаў) 1 сакавіка, у першы дзень вясны.**

Арганізатары запрашаюць да ўдзелу жанчын Маладзечанскага раёна 25-40 гадоў. Абавязковая ўмова: жанчына мусіць быць замужам і мець дзяцей.

Ужо вядома, што ў праграме абавязкова будзе некалькі дэфіле і выхад з дзецьмі. Удзельніцам трэба будзе падрыхтаваць візітоўку з прэзентацыяй сям'і.

– Праводзіць конкурсы для маладых дзяўчат ужо звыклая справа, у адрозненне ад конкурсу для замужніх паспяховых жанчын, якія гадуюць дзіця, – кажа намеснік дырэктара па творчай рабоце **Маргарыта Шытыка**. – Тым не менш, такіх жанчын у нашым горадзе вельмі шмат. Яны ўжо чагосьці дасягнулі, ім ёсць чым ганарыцца. Магчыма, гэта выклікае яшчэ большы ажыятаж. Разлічваем, што будзе яскравае шоу з яркімі эмоцыямі. Усе канкурсанткі абавязкова атрымаюць падарункі.

Ужо падалі заявы на ўдзел чатыры жанчыны.

Вызначаць найлепшую канкурсантку будуць мужчыны.

Летась раённы Цэнтр культуры здзіўляў жыхароў Маладзечаншчыны конкурсам на Містэра Маладзечна.

– Тады атрымалася шыкоўнае свята. Дагэтуль удзельнікі дапамагаюць у правядзенні розных нашых імпрэз, – узгадвае Маргарыта Шытыка. – Увесь час імкнёмся прыдумляць штосьці новае. Такога конкурсу для жанчын у Маладзечне яшчэ не было.

**Заявы ад ахвотных пазмагацца за званне "Місіс Маладзечна-2016" прымаюць да 15 лютага па нумарах: 77-01-11 ці 8 (029)161-00-10.**

Аддзел інфармацыі.

## У Маладзечне пройдзе лекцыя, прысвечаная Ігнату Абдзіраловічу

МАЛАДЗЕЧНА

13 лютага ў 16:00 у прыватнай гасцёўні па вуліцы Чыстай адбудзецца лекцыя філосафа і паэта **Міхаіла Баярына** "Запавет ліючайся формы", прысвечаная спадчыне **Ігната Абдзіраловіча.**

Ладзіць сустрэчу Лятучы ўніверсітэт пры падтрымцы грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі" і курсаў беларускай мовы "Мова Нанова".

Часткай культуры з'яўляюцца запаветы – узоры будучыні. Айцы-пачынальнікі беларускага праекта ўяўлялі сабе розныя вобразы Беларусі. І калі накласці іх як трафарэты на сучаснасць, можна ўбачыць, што яны збольшага завершаныя, мэты дасягнутыя.

Гэта значыць, што беларускі час завяршаецца і патрабуе ўзнаўлення. Калі ж скончыцца эмоцыя самасці, з якой паўставаў беларускі праект, нас чакае нармалізацыя, еўрапейскі стандарт. І няма, мабыць, большага здзеку з еўрапейскай першаснасці і самасці, чым гэта самакаланізацыя.

Нам належыць узнавіць беларускі час. Пераствараць мову, пераўявіць краіну. І тады мы ўзгадаем пра яшчэ адзін узор Беларусі, які раней нельга было ўявіць, ён здаваўся немагчымым. Запавет ліючайся формы Ігната Абдзіраловіча – гэта ідэя, вартая быць марай нашага тысячагоддзя.

Уваход вольны.

За анонсамі наступных падзей сачыце на сайце "Лятучага ўніверсітэта" http://fly-uni.org/.

Аддзел інфармацыі.

## Далучайцеся да другой гульні "Розум-шоу" ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

Яе правядзе ўладальнік "Хрустальнай савы" **Павел Свярдлоў**.

Удзел у гульні бясплатны. Як адзначыла загадчыца аддзела абслугоўвання цэнтральнай раённай бібліятэкі **Таццяна Закрэўская**, яна адбываецца ў адзіным горадзе Беларусі – Маладзечне.

Імпрэза прызначаная на суботу, 27 лютага. Пачатак а 15-й гадзіне.

Рэгістрацыя на ўдзел адбываецца загадзя па тэлефоне (80176) **76-06-56** ці **(8033) 669-12-18**.

Мерапрыемства ладзіць Маладзечанская цэнтральная раённая бібліятэка. Яно пройдзе ў канферэнц-зале бібліятэкі сямейнага чытання "Верасок".

Аддзел інфармацыі.



Фота забяспечанае Вольгай ШЛЯПО.

Выступае творчы дуэт Starblaster.

## Рок-гурты з рэгіёна выступілі ў Вілейцы і паўдзельнічалі ў дабрачыннай акцыі

ВІЛЕЙКА, СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА

**На рок-канцэрце “Вілейка рок-н-рольная” выступалі гурты з Вілейкі, Маладзечна, Смаргоні.**

Прайшоў ён 30 студзеня ў дыскатэчнай зале Вілейскага Палаца культуры.

Адкрываў канцэрт з дэбютнай праграмай малады вілейскі рок-гурт “Белая варона”.

Музыка ў выкананні вілейска-маладзечанскага калектыву Element гучала арыгінальна і насычана, а віртуозная ігра бас-гітарыста ўразіла ўсіх прысутных.

Рок-гурт Meandr са Смаргоні выступаў у нашым горадзе ўпершыню. Па-свойму ўнікальна і крэатыўна смаргонцы выконвалі песні ў жанры рускага року. І, безумоўна, знайшлі прыхільнікаў сярод вілейчан.

Дэбютаваў на канцэрце таксама творчы дуэт **Андрэя Каўзановіча** і **Тацціяны Макарэвіч** Starblaster с кампазіцыяй Absolute love. Іх выступленне – гэта ўнікальны аўтарскі музычны прадукт, выкананы ў лепшых традыцыях еўрапейскага року 80-90-х гадоў.

Гурт Kanflikt з Маладзечна пакарыў прыхільнікаў “цяжкай” альтэрнатыўнай музыкі. Пад іх выступленне самыя смелыя палымяна танцавалі ля сцэны.

Хэдлайнерамі рок-вечарыны быў гурт “Планета ўсіх”. Гэтаму вілейскаму калектыву ўжо больш за пяць гадоў. Падчас іх выступлення амаль кожны другі спяваў разам з імі іх аўтарскія, з сэнсам, песні.

На канцэрце гурты ўдзельнічалі ў дабрачыннай музычнай эстафеце “Дабрыні быць!”. Ініцыятарамі акцыі з'яўляюцца самі музыкі: яны пералічваюць грошы на разліковы рахунак хворых на анкалогію дзяцей, выконваюць дзіцячую песню, выкладваюць відэа песні ў сацсетках з хештэгамі – такім чынам перадаюць эстафету іншым музыкантам.

**Вольга ШЛЯПО,**
**намеснік дырэктара Вілейскага Палаца культуры.**

## У Ашмянах пройдзе выстава Алега Драбышэўскага

АШМЯНЫ

У Ашмянскім краязнаўчым музеі імя Францішка Багушэвіча пройдзе персанальная выстава “Водар Радзімы” беларускага мастака-жывапісца Алега Драбышэўскага з Мінска. Родам ён з Астравеччыны, лёсам звязаны і з Ашмяншчынай.

**Прэзентацыя выставы адбудзецца 12 лютага ў 13:30. Вернісаж працягнецца да 12 сакавіка.**

**Аддзел інфармацыі.**

# Які сувенір адлюструе Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

**Выніковая выстава “Ствараем. Абмяркоўваем. Марым” адбылася 6 лютага ў музычным каледжы.**

Яе зладзілі ў межах праекта “Рэгіянальныя сувеніры як сродак інтэграцыі мясцовых агратурыстычных супольнасцяў”.

На выставе сабраліся майстры, навучэнцы каледжа, краязнаўцы. Яны абмяркоўвалі ўзоры работ, якія падрыхтавалі падчас праекта. Сярод іх былі сувеніры, стылізаваныя пад сярэднявечную пячатку, з вывяай Міхала Клеафаса Агінскага, падсвечнікі, скрыначкі, паштоўкі, званочкі, аб'ёмныя сюжэтныя карцінкі.

Зацікаўленыя абмяркоўвалі, якія сувеніры, ды і ўвогуле сімвалы рэгіянальнай ідэнтычнасці, найбольш годныя, каб прадстаўляць Маладзечаншчыну для гасцей краю.

Удзельнікі галасавалі за работы, якія спадабаліся найбольш. Такім чынам на выставе зладзілі конкурс глядацкіх сімпатый.

У ім перамагла серыя сувеніраў у выглядзе велікодных яек, у якія зручна паставіць свечку. Яйкі зробленыя ў змешанай тэхніцы. На керамічную аснову, якую зрабіла мастачка **Ліна Цывіна**, **Валянціна Слюнчанка** нанесла ўзоры са шпалернай паперы ў тэхніцы выцінанкі. Хаця серыя перамагла, яна не адлюстроўвае ўнікальнасць менавіта Маладзечаншчыны.

А другое і трэцяе месцы занялі працы, непасрэдна звязаныя з сімволікай і гісторыяй горада. Лялька “Млад” **Наталлі Тараскінай** паказвае ўяўнага малайца, які заснаваў горад. У працы Ліны Цывінай і **Франца Тулькі** адлюстраваная рэпліка пячаткі князя Дзмітрыя, якая была на яго грамаце, у якой занатаваная першая згадка пра Маладзечна.

Каардынатар праекта **Аляксандр Белы** адзначае, што ўдзельнікі пагадзіліся разглядаць вынікі праекта папярэднімі, якія вызначылі контур вялікай працы. У будучым мясцовым супольнасцям варта выпрацаваць пэўныя формы і візуальныя вобразы, якія будуць і годна прадстаўляць край, і ўспрымацца як свае.

Праект “Рэгіянальныя сувеніры як сродак інтэграцыі мясцовых агратурыстычных супольнасцяў” здзяйсняе грамадскае аб'яднанне інвалідаў “Асаблівы свет” у Маладзечанскім і Валожынскім раёнах. Яго падтрымлівае Праграма падтрымкі Беларусі Федэратыўнага ўрада Германіі.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Госці абмяркоўваюць выставачныя работы.



Фота забяспечанае Аляксандрам БЕЛЫМ.

У конкурсе глядацкіх сімпатый перамагла серыя велікодных яек.

# Германія на 23-й кніжнай выставе-кірмашы

**На Мінскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы ў гэтым годзе будуць прадстаўленыя ўласнымі стэндамі Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія і Інстытут імя Гётэ.**

Цэнтральнае месца ў экспазіцыі пасольства сёлета займае літаратура, тэматыка якой звязаная з культурнай і ландшафтнай разнастайнасцю Германіі. Яна знаходзіць сваё адлюстраванне ў фотаальбомах, навукова-папулярнай літаратуры, рэгіянальных раманах і кулінарных кнігах.

Будуць шырока прадстаўленыя кнігі для дзяцей і юнацтва, у тым ліку на дзвюх мовах – рускай і нямецкай, навінкі нямецкай мастацкай літаратуры, кнігі аб навакольным асяроддзі і ўзнаўляльных відах энергіі, а таксама пра Беларусь на нямецкай мове.

Стэнд Інстытута імя Гётэ будзе прысвечаны двухмоўнай літаратуры, найноўшым выданням нямецкай мастацкай літаратуры і кнігам для вывучэння і навучання нямецкай мове. 11 лютага 2016 года ў 12:00 Нямецкая асацыяцыя народных універсітэтаў у Беларусі (DVV) прадставіць дзве серыі публікацый на тэму “Адукацыя дарослых”.

У 14:00 адбудзецца сустрэча з журналістам і пісьменнікам **Аляксандрам Тамковічам**. Ён раскажа аб дапамозе, якую аказвае Германія беларусам, што пацярпелі ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС.

У 19:00 у бібліятэцы Інстытута імя Гётэ адбудзецца літаратурны вечар. Пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германія **Петэр Дэтмар** прадставіць кнігу Der Widerspruch. Autobiographischer Bericht (Супярэчнасці. Аўтабіяграфічныя нататкі) **Герхарда Цверэнца**.

12 лютага ў 16:00 адбудзецца сімвалічная перадача часткі кніг, прадстаўленых у экспазіцыі. Гэтым актам Пасольства Германіі падтрымлівае беларускія школы, якія на працягу многіх гадоў садзейнічаюць распаўсюджванню нямецкай мовы і культуры.

13 лютага ў 16:30 адбудзецца ўрачыстае ўзнагароджанне пераможцаў рэспубліканскага конкурсу для школьнікаў Lesefuchs, арганізаванага Цэнтральным упраўленнем па справах нямецкай школьнай адукацыі за мяжой.

14 лютага з 12:00 да 13:00 пройдзе традыцыйны “Дзіцячы дзень” з гульнямі для дзяцей школьнага ўзросту.

**Мінская міжнародная кніжная выстава-кірмаш пройдзе ад 10 да 14 лютага ў Нацыянальным выставачным цэнтры “БелЭкспа” па адрасе: праспект Пераможцаў, 14. Адкрыццё адбудзецца ў сераду, 10 лютага, у 12:00.**

**Часы працы германскага стэнда:**

Серада, 10 лютага: 12:00-19:00.

Чацвер-субота, 11-13 лютага: 10:00-19:00.

Нядзеля, 14 лютага: 10:00-15:00.

**Паводле паведамлення Пасольства ФРГ у Мінску.**

# Мястэчка Маркава, якому 600 год

## У час Расійскай імперыі

*Працяг. Пачатак у нумарах 3, 4, 5, 6.*

МАЛАДЗЕЧНА

**Маркава здаўна з'яўлялася своеасаблівым цэнтрам уплыву нашага краю, вакол якога сыходзіліся інтарэсы навакольных паселішчаў. Летась мястэчка справіла сваё 600-годдзе.**

У Маркаве ў 1800 годзе жыла адна яўрэйская сям'я з чатырох чалавек. З жыдамі, як іх называлі маркаўцы, жылі ў згодзе.

Расійскія чыноўнікі адасобілі яўрэяў не толькі лініяй аседласці, а таксама рознымі забаронамі ў гаспадарчай і дзяржаўнай дзейнасці.

### Жыхары змагаліся за свае правы

Пераважная большасць сялянскіх гаспадарак мела ў сваім распараджэнні 15 маргоўворнай і не больш за 5-8 маргоў сенакоснай зямлі. Асноўнай цяглавай сілай у гаспадарках былі валы, меліся і коні. У бальшыні двароў – па дзве адзінкі.

Прозвішчы маркаўцаў засталіся амаль нязменнымі на працягу вякоў. Трэцяя частка мястэчка – Рагуновічы, далей ідуць Міцько, Козелы, Яблонскія і Барэйкі.

Зноўку немцы і расейцы будуць дзяліць нашу зямлю ў 1918 годзе. Тое ж самае паўторыцца і ў 1939 годзе.

Але Маркава спачатку не ўвайшло ў Мінскую губерню. І пазней Мінская казённая палата вярнула Маркава разам з мястэчкам Нарача з 310 душамі мужчынскага полу ва ўласнасць губерні. Якраз гэтая частка Маркаўскага староства яшчэ раней была пажалаваная за заслугі перад Расейскай імперыяй правіцелю Браслаўскай губерні генерал-маёру Фёдару Бергману.

Само Маркава статус мястэчка не страціла, хоць і былі неаднаразовыя спробы ў судовым парадку зрабіць мяшчан Маркава прыгоннымі сялянамі і тым самым ліквідаваць мяшчанскія прывілеі. Папросту не хацелі быць у прыгоне, а ва ўмовах новага палітычнага рэжыму змагаліся за свае правы, прывілеі мяшчан. Хай сабе і частковыя. Ці не заслугоўвае гэта павагі?

Жыхары мястэчка, абапіраючыся на першую еўрапейскую канстытуцыю Рэчы Паспалітай 3 мая 1791 года, звярталіся ў каралеўскі прыдворны асэсарскі суд, што над імі чыніцца прыгнёт і насілле.

Існуючымі дакументамі вызначана, што ў 1795 годзе адміністратар староства нехта Падлескі падаў у Мінскую казённую палату звесткі аб прыналежнасці ўсіх жыхароў Маркава да сялян.

У 1803 годзе маркаўцы падавалі цару Аляксандру I прашэнне аб заступніцтве ад крыўдаў ротмістра С. Клецкага. Гэты расейскі чыноўнік-акупант паводзіў сябе, як тыповы феадал паводзіць сябе са сваімі прыгоннымі. Ён забараніў сялянам хадзіць у лес, якім яны спрадвеку карысталіся. Таго, хто парушаў забарону, чакалі вялікія непрыемнасці:

> **"...того грабили немилостиво, отбирали топоры, а иногда и одежду, привязывали к дереву и били розгами".**

Ротмістр С. Клецкі адбіраў у сялян зямлю, за якую яны плацілі падаткі царскай казне. Паводзіў сябе, як захопнік, не зважаючы на законы.

Аднойчы гэты ротмістр загадаў сваім работнікам араць сялянскія землі. І калі сяляне Маркава пайшлі давядацца ў чым справа, адкрыў па іх страляніну. Адзін селянін быў забіты і адзін паранены. Напэўна, у тых месцах, адкуль прыбыў Клецкі, гэта было прынята, а можа проста быў п'яны, што не дзіва. Сяляне абяззброілі ротмістра і звярнуліся ў Ашмянскі суд. Аднак ніякага пакарання ротмістр не панёс. У далейшым Клецкі загадваў сваймy памочніку Яворскаму збіраць ураджай з сялянскіх земляў. Карацей, у перыяд ад 1795 да 1807 года сітуацыя ў Маркаве была вельмі трывожнай, нават напружанай. Гэта быў перыяд усталявання адносінаў між мясцовым насельніцтвам і новай акупацыйнай расейскай уладай. Адам Міцкевіч пра гэты апошні наезд у Літве пісаў у сваёй паэме "Пан Тадэвуш".



Фота забяспечанае Сяргеем КАСМАЧОМ.

**Дзед аўтара Сцяпан у царскім войску. Санкт-Пецярбург, 1917 год. У свае 22 гады ён яшчэ не ведае, што пражыве доўгае жыццё пры розных уладах, будзе мець вялікую сям'ю: двух сыноў і пяцёх дачок, сямёх унукаў і чатырох унучак.**

Пасля смерці Коцела паручык Навакоўскі, які кіраваў маёнткам генерала Бергмана, забараніў маркаўскім сялянам браць за Нарачанкай лес на дровы і будаўнічы матэрыял.

Маркаўцы ў сваю чаргу, баронячы свае мяшчанскія правы, сталі звяртацца ў вышэйшыя структуры з пацвярджэннем падмацаваных дакументамі сваіх прывілей. Напэўна, адвакат быў наняты адмысловы, а хутчэй за ўсё, у гэтай справе не абышлося без удзелу нашчадкаў Тадэвуша Коцела. Пэўна ж, што складсці такі зварот, ды яшчэ з пацвярджаючымі дакументамі, было вельмі няпроста. Дарэчы, як і цяпер. Пры гэтым новыя назначаны ўладальнікі староства Берман, а затым і Любанскі ўсяляк перашкаджалі. Мешчанін у Рэчы Паспалітай – гэта адно, а прыгонны селянін у Расейскай імперыі – гэта зусім іншая песня. Нялёгкія былі часы.

22 сакавіка 1796 года часовы кіроўца спраў Маркаўскага староства капітан Матунін на месцы, у Маркаве, выдаў Тадэвушу Коцелу неабходныя дакументы на ўсю зямлю і ўгоддзі, якія адносіліся да вёсак Готкавічы, Громавічы, Талуі, Хатуцічы і Каралеўцы (па-старому – Іжа) з усімі засценкамі з даўняга часу, у тым ліку і адлічаныя да Мінскай губерні. Падобна на тое, што ў гэтай справе дапамаглі грошы Коцела. У далейшым Коцел, а затым яго нашчадкі і Бергман доўга не маглі вызначыцца пра мяжу ўладанняў.

25 студзеня 1798 года, пасля смерці Тадэвуша Коцела казённая палата прымае рашэнне аб залічэнні мястэчка ў свае ведамства і правядзенні неабходных разлікаў з нашчадкамі памерлага і пералічэнні ў казну грашовых сродкаў.

З гэтай мэтай быў складзены інвентар часткі Маркаўскага староства, якая належала Коцелу.

У 1796 годзе па справе №401 Мінскага Вышэйшага Намесніцкага Праўлення было вызначана: "...усе засценкі за лініяй губерні Мінскай у губерню Літоўскую засталіся ў яснавяльможнага пана Коцела і Бергмана, якія не маюць прэтэнзій і гэта адлюстравана, належным чынам зроблена і апісана ў гэтым інвентары, так і засталося".

У 1806 годзе генерал Бергман прадае частку Маркаўскага староства ў Вілейскім павеце старшыні Мінскай крымінальнай палаты Івану Любанскаму.

**Працяг будзе.**



**Сяргей КАСМАЧ, Маладзечна.**

---

КАЛЯНДАР

**13 ЛЮТАГА**

**1806 год.** Нарадзіўся Юльян Корсак (г. Слонім), паэт, перакладчык. Пад уплывам творчасці Міцкевіча засвоіў рамантычны стыль лірычнай паэзіі. Пераклаў на польскую мову Піндара, Вергілія, Гарацыя, Данта, Шылера, Байрана, Шэкспіра. Некаторыя яго вершы ("Пілігрым", "Баркарола") пакладзены на музыку С.Манюшкам.

**17 ЛЮТАГА**

**210 гадоў** з дня нараджэння Канстанціна Тышкевіча (1806–1868), гісторыка, аднаго з заснавальнікаў навуковай археалогіі ў Беларусі.



**100 гадоў** назад (1876–1916) памерла Цётка (сапр. Алаіза Пашкевіч, па мужу Кайрыс), беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка, грамадска-палітычны дзеяч, асветніца, выдавец. Адна з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускай сацыялістычнай грамады. Арганізоўвала рэвалюцыйныя рабочыя гурткі, пісала вершы, якія распаўсюджваліся як праклямацыі, выступала з прамовамі па-беларуску на мітынгах і сходах. Адна з пачынальніц беларускай прозы. У 1915 годзе прыкладае шмат намаганняў для арганізацыі беларускіх школ і настаўніцкіх курсаў у Вільні, дапамагае ў стварэнні прытулкаў, як сястра міласэрнасці даглядае хворых у тыфозным бараку. У 1916 памёр бацька, і Алаіза паехала на яго пахаванне. У Лідскім павеце лютавала эпідэмія тыфу. Яна засталася, каб дапамагчы хворым, але сама заразілася і памерла. Пахаваная ў Старым Двары пад Лідай.

**60 гадоў** назад (1956) памёр Янка Быліна (сапр. Ян Семашкевіч), каталіцкі святар, пісьменнік, паэт. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1907), у тым жа годзе пасвечаны ў святары. Служыў у касцёлах на Слонімшчыне, Вілейшчыне, Ашмяншчыне, Віленшчыне. З 1933 года служыў на Беласточчыне. За ўжыванне беларускай мовы ў казаннях праследаваўся польскімі ўладамі. Арыштоўваўся НКВД у канцы верасня 1939 года. Апошнія гады жыцця правёў на Беласточчыне. Пахаваны побач з касцёлам ў Бомблі, Польшча. Нарадзіўся 30 кастрычніка 1883 года ў в.Лакцяны, цяпер Астравецкі раён.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА

Прадстаўнік Чырвонага Крыжа Пер Поўлсен ля ўвахода ў цэнтр па прыёме бежанцаў Сандхольм.

# Бежанцы ў Даніі: кавярня ад валанцёраў і навучанне жывапісу

**У Даніі словазлучэннем 2015 года стаў "паток бежанцаў". Недарэмна: калі ў 2014 годзе краіна прыняла каля 15 тысяч чалавек, то летась – больш за 21 тысячу. Найбольш прыехала выхадцаў з Сірыі і Эрытрэі.**

Бежанцаў у Даніі размяркоўваюць па розных мясцовасцях. У камуне Алерод жыве каля 25 тысяч жыхароў, за год тут прынялі каля 100 бежанцаў. Забяспечваюць іх жыллём – таксама імкнуцца пасяліць у розных месцах, каб не стварыць нейкага гета.

Дапамагаюць адаптавацца да новага жыцця ў Доме інтэграцыі.

Расказалі супрацоўнікі, што многім з іх цяжка зразумець, што медыцынская дапамога можа быць бясплатнай.

– Яны прыязджаюць з іншай сістэмы. Скажам, на радзіме ён захацеў пабудаваць нешта ва ўпадабаным месцы – і будуе, у нас так не зробіш.

Людзі тут чулыя: штатным супрацоўнікам цэнтра дапамагае ажно 40 валанцёраў.

### Кавярня для бежанцаў

Яшчэ валанцёры ўжо 16 год трымаюць у Алеродзе незвычайную кавярню – для бежанцаў. У маленечкім памяшканні ўтульна, развешаныя дзіцячыя малюнкі. Бежанцы могуць прыйсці сюды, адпачыць, выпіць кавы ці чаю. Валанцёры, пераважна пажылыя жанчыны, дапамагаюць у вывучэнні дацкай мовы, наладжваюць розныя святы.

У кавярні сустракаем Алісу. Яна таксама калісьці была бежанкай – ратавалася з сям'ёй ад вайны ў Чачні. За столькі год абжылася ў Даніі, цяпер сама валанцёр.

– Данія вельмі гасцінная краіна, – кажа яна. – Памятаю, як нас вывозілі на пару гадзін у горад, мы прыходзілі сюды, каб выпіць кавы. Уразіла, як пажылыя людзі ўсім дапамагаюць. Мову з намі вучылі, з імі вельмі добра асвойваць.

**– У сувязі з наплывам бежанцаў ці змяніліся адносіны да іх у горадзе?**

– Вялікі наплыў крыху напужаў людзей. Бо не ведаеш, хто з тымі бежанцамі можа прыехаць. Цяпер шмат з Сірыі прыязджае.

> **Сапраўды, многія ад вайны ўцякаюць, але ёсць і крымінальнікі. Цяжка адрозніць, хто ёсць хто, таму што з усяго свету прыязджаюць. Хто стараецца, той адукацыю атрымае, працаваць будзе. Але не ўсе хочуць працаваць.**

У кавярню завітваюць не толькі бежанцы, якія пасяліліся ў наваколлі, але і насельнікі аднаго з дацкіх цэнтраў па прыёме бежанцаў – Сандхольм. Тут на тэрыторыі былых ваенных казармаў жывуць людзі, якія толькі прыбылі ў краіну і хочуць атрымаць статус бежанца.

Бывае, штодня і да двухсот чалавек прымаюць у цэнтры. Тут іх кормяць, лечаць, вучаць. Выдзяляюць жыллё – сем'і жывуць у асобных пакоях. Кожныя два тыдні выплачваюць кішэнныя грошы, з якімі яны могуць паехаць у той жа Алерод. Апякуецца цэнтрам Дацкі Чырвоны Крыж.

### Вучаць жывапісу і музыцы

Афіцыйныя асобы расказвалі, што стараюцца інтэграваць бежанцаў праз працу і дацкую мову. Ці заўсёды гэта атрымліваецца?

Кафаедс – школа для сацыяльна ўразлівых катэгорый насельніцтва ў Капенгагене. За дзень сюды прыходзіць каля паўтысячы чалавек, палова з іх – мігранты.

Тут не толькі дацкай мове ці ўводзінам у дацкае грамадства вучаць, але і на камп'ютары працаваць, жывапісу, музыцы... Ёсць спартыўныя секцыі, стаматалагічная клініка, свая "валюта", якой можна расплаціцца ў мясцовай сталовай.

Навучаюць розным спецыяльнасцям. **Ахмед** з Лівана вучыцца на аўтамеханіка і кажа, што калі ведаеш мову, можаш знайсці нармальную працу.

Праўда, тры чвэрці з наведнікаў школы не працуюць больш за 10 год ці зусім не працавалі.

### "Хочам, каб кожны меў права на добрае жыццё"

Неаднойчы падчас паездкі журналісты пыталіся ў датчан, з якой мэтай яны прымаюць столькі бежанцаў з іншых краін, выхаваных у іншай культуры, – гэта праблемы, выдаткі... Адказвалі прыкладна так: "Мы жывём добра і хочам, каб кожны меў права на добрае жыццё". Ці падкрэслівалі, што гэта пытанне не нейкай выгады, а правоў чалавека.

Разам з тым, у Даніі прымаюць больш жорсткія меры, каб зменшыць колькасць бежанцаў.

> **Скажам, прадугледжана скарачэнне дапамогі для іх амаль удвая – у пераводзе на беларускія рублі з 36 да 20 мільёнаў на чалавека.**

Хто старанна вывучае дацкую мову, можа атрымаць яшчэ пяць мільёнаў.

Лічбы ўсё роўна спадабаліся? І не спадзявайцеся. Казалі, што шанцаў атрымаць статус бежанца беларусам ці ўкраінцам практычна няма.

Многія бежанцы зараз не просяць прытулку ў Даніі, а адпраўляюцца далей – у Швецыю. Лічаць, што там лепшыя для іх умовы. Летась у Швецыю прыехала ў восем разоў больш бежанцаў, чым у Данію.

Так што, у Даніі сітуацыя больш спакойная. Але кавярню ў Алеродзе валанцёры ўсё ж думаюць павялічваць, бо месца ўжо стала занадта мала.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ТЭМА НУМАРА



Падчас урачыстага канцэрта за кулісамі. Злева направа: Таццяна Валахановіч (Гран-пры на конкурсе "Маладзечна-2015"), Яўген Доліч (трэцяе месца на XI Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2011"), беларуская спявачка і вядоўца Жанет, Аляксандр Салаўёў (Гран-пры конкурсу маладых выканаўцаў на X фэсце беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2009"), кіраўнік студыі эстраднай песні "Спяваем разам" Алена Атрашкевіч.

# Маладзечанцы будуць купацца ў мастацтве

МАЛАДЗЕЧНА

**А горад – культурная сталіца незалежна ад таго, які год у календары.**

Вось так прыгожа і пафасна выказаўся пра горад і яго жыхароў пачэсны грамадзянін Маладзечна кампазітар **Алег Елісеенкаў** падчас мерапрыемства, на якім гораду перадалі адпаведны сертыфікат, які пацвердзіў гэта званне.

**Напрыканцы мерапрыемства сертыфікат у рукі старшыні Маладзечанскага райвыканкама Аляксандра Яхнаўца перадаў міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў.**

А ўсю ўрачыстую частку сертыфікат знаходзіўся за кулісамі Палаца культуры. Менавіта каля яго адбываўся ўвесь рух і вяліся размовы пра тое, што прынясе гэты год Маладзечну і ці сапраўды Маладзечна мае гонар насіць званне культурнай сталіцы – 2016.

– Паверце, культурнай сталіцай Маладзечна стала далёка не 5 лютага, – кажа дырэктар музычнага каледжа імя Агінскага **Рыгор Сарока**. – У якім яшчэ горадзе ставяцца ўласныя оперы? Дзе яшчэ ёсць свой сімфанічны аркестр? А што дасць Маладзечну статус культурнай сталіцы? Упэўнены, што ў 2016 годзе выхаваная, спакушаная маладзечанская публіка будзе проста купацца ў мастацтве.

Перад выхадам на сцэну **Алёна Ланская** прызналася, што Маладзечна лічыць даўно родным і блізкім горадам.

– А пасля таго, як у мяне тут з'явіліся сябры, напрыклад **Уладзімір Александровіч**, я горад палюбіла яшчэ больш.

Летам 2015 года Алёна Ланская была сябрам журы конкурсу маладых выканаўцаў "Маладзечна-2015".

– Гэта абсалютна новы для мяне досвед. І калі паклічуць у гэтым годзе, вядома, пагаджуся.

На пытанне, ці заслужыў горад звання культурнай сталіцы, Алёна адказала:



Алег Елісеенкаў.



Алёна Ланская.



Рыгор Сарока.

– Я не ведаю, хто прымаў гэта рашэнне, але яно самае правільнае!

– Маладзечна – культурная сталіца незалежна ад года на календары, – лічыць кампазітар Алег Елісеенкаў. – Тут такое культурнае прыцягненне, асаблівае культурнае поле. Ці ведаеце вы, што самыя знакамітыя музыканты лічылі за гонар выступіць у Маладзечне? Кампазітар **Салаўёў-Сядой**, калі выступаў у Маладзечне, каньяк набываў у суседняй з канцэртнай залай краме.

Я не быў на тым канцэрце, але мне бацька расказваў, што Салаўёў-Сядой прыходзіў у краму, клаў на прылавак 25 рублёў і казаў: "Рэшты не трэба". Браў каньяк і ішоў у канцэртную залу. Бутэлька каньяку тады каштавала рублёў шэсць.

Сам жа Алег пахваліўся, што наведваў у Маладзечне канцэрт самога **Барыса Штокалава** – опернага спевака.

З тым, што Маладзечна – гэта не толькі музычны горад, але і горад мастакоў і бібліятэк, Алег Елісеенкаў спрачацца не стаў:

– Пра маладзечанскіх мастакоў хадзілі легенды. А ведаеце, дзе можна было пабачыць іх творы? На афішах кінатэатра "Радзіма". Тады многа хто з мастакоў падзарабляў тым, што маляваў афішы. А маладзечанскі спорт? Да сёння памятаю матч з мінскім "Дынама" ў 1982 годзе. Маладзечанцы тады прайгралі з лікам 4:1, але той адзіны гол забіў мой сябар **Юра Мурашоў**. Так што маладзечанцы – гэта сапраўднае ўпрыгожанне зямлі беларускай.

**– На вашу думку, што гэты год зменіць у культурным жыцці маладзечанцаў?**

– Я задаў бы гэта пытанне па-іншаму. Не што зменіць год культуры ў культурнай сталіцы, а як Маладзечна ў гэты год зменіць свет. А я думаю зменіць.

А ў фінале канцэрта, нарэшце, прагучала песня "Маладзечна". Хочацца спадзявацца, што песня, якую лічаць не толькі гімнам фестывалю, але і гімнам горада, загучыць над культурнай сталіцай.

### Рок-фестываль, конкурс мікраараёнаў і бальныя танцы чакаюць маладзечанцаў

На гэты год у культурнай сталіцы запланавана шмат мерапрыемстваў, фестываляў, імпрэзаў.

Ужо ў лютым маладзечанцы змогуць пабачыць спектаклі народнага тэатра "Метамарфозы", спектакль Маскоўскага тэатра, выставу іканапісу **Ядвігі Сянько**, канцэрт гімназіі-каледжа мастацтваў.

У сакавіку ўпершыню пройдзе фестываль бардаўскай песні. Таксама ўпершыню адбудзецца турнір па спартыўных бальных танцах. А яшчэ ў першы вясновы месяц распачнецца фэст бульбы "Бульба сёння, бульба заўтра". На лета запланаванае свята мікраараёнаў горада.

Моладзь парадуюць канцэрты **Дзмітрыя Калдуна**, гурта "Аёва", **Наргіз**, дыскатэка, якую ў чэрвені правядуць самыя вядомыя ды-джэі краіны. У чэрвені адбудзецца рок-канцэрт з удзелам рок-выканаўцаў і рок-гуртоў "Нейра Дзюбель", Akute, J: Морс, NRM, "Крама" і іншых.

Для аматараў шансону ў Маладзечне пройдзе фестываль "Залаты шансон" з удзелам **Міхаіла Шуфуцінскага**, **Жэкі**, **Кацярыны Галіцынай** і іншых выканаўцаў.

У ліпені затанцуюць усе маладзечанцы ў флэшмобе "Горад, які танцуе".

Акрамя гэтага, гастролі тэатраў Беларусі і Расіі, тэлевізійныя праекты, конкурсы, выставы.

Ну як тут не пагадзіцца са словамі Рыгора Сарокі, што маладзечанцы будуць купацца ў мастацтве?

**Наталля ТУР,**
**Настасся РОЎДА.**
**Фота Настассі РОЎДЫ.**

Аўтарская калонка

Наталля ТУР



## Чаму дарослыя дзядзечкі не могуць разабрацца з футболам у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**Кожны год, кожны пачатак сезона адно і тое ж пытанне: "Ці будзе футбол у Маладзечне?".**

Я ў "РГ" ужо тры гады. І трэцяя вясна пачынаецца з адных і тых жа пытанняў: хто будзе прадстаўляць горад у другой лізе? Хто будзе гэта фінансаваць?

У гэтым сезоне ў маладзечанскай каманды з'явілася магчымасць ліцэнзавання ў першую лігу.

Заўзятары пачалі збіраць подпісы за тое, каб каманду заявіць у ёй. Петыцыя з'явілася ў сецiве ў мінулы аўторак, 2 лютага.

Маладзечанскі заўзятар **Дзмітры Рухлевіч** звяртаецца да старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандра Яхнаўца**, да старшыні Мінскага аблвыканкама **Сямёна Шапіры**, да старшыні беларускай федэрацыі футбола **Сяргея Румаса**. У ліку іншага (дазволіць піва на стадыёне і заявіць каманду "Забудова") Дзмітры прапаноўвае сродкі, якія горад атрымае ад мінскай каманды "Іслач", накіраваць на развіццё маладзечанскай каманды.

У панядзелак пад петыцыяй падпісаліся 406 чалавек.

Аднак даводзілася чуць і такія меркаванні ад заўзятараў, што калі заяўляць каманду ў першую лігу, то трэба, каб гэта была прафесійная каманда. А аматары хай і застаюцца ў другой лізе.

Задавала "РГ" пытанні і ўладзе, і трэнерам, і футбалістам. Усе разводзяць рукамі. Ніхто ні разу не сказаў: "Так. Будзе цяжка, але мы паспрабуем".

Трэнер, паважаны **Аляксандр Гармаза**, увогуле з перыядычнасцю раз на месяц адмаўляецца трэніраваць каманду. Памятаю яго словы пра тое, што ён стаміўся так працаваць, калі нікому футбол у гэтым горадзе непатрэбны.

Я не разумею, чаму дарослыя мужчыны не могуць разабрацца ў элементарных рэчах.

У аддзеле адукацыі, спорту і турызму адказ адзін – грошай няма і не будзе.

На мінулым тыдні намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Мікалай Шрымф** даў інтэрв'ю газеце "Прессбол". І пасля гэтага інтэрв'ю, у прынцыпе, пытанняў да ўладаў не засталося. Маленькая цытата Мікалая Уладзіміравіча: "Мне не толькі футболам займацца трэба – у нас развіваецца 21 алімпійскі від: у боксе поспехі ёсць, у барацьбе, дзюдо, плаванні, лёгкай атлетыцы... Але ніколі ад яго не адварочваўся. Мая задача ў футболе крыху іншая: заўсёды дапамагаць людзям, якія ведалі б, што рабіць – і ўзяліся за гэта".

А за што брацца? Нагадаю, што год таму горад у другой лізе прадстаўляла каманда "Маладзечна-2013" з трэнерам **Дзянісам Мятліцкім.**

Колькі тады было абурэнняў, што каманда часовая? Што гуляць не ўмеюць? Што гульцы чужыя? (Чужыя? **Цімафей Ігруша**, якога адкрыў Мятліцкі, нам чужы?)

А між тым тое кіраўніцтва клуба не сядзела на адным месцы. Магчыма, не вельмі ўдалыя, але былі спробы дамовіцца і са спонсарамі, і з уладамі.

Колькі разоў тады дырэктар клуба **Аляксандр Любанец** хадзіў і абіваў парогі ў чыноўнікаў?

Але каманда займала апошнія радкі турнірнай табліцы. На "круглых сталах", што ладзіла тады газета, і Мятліцкі, і Любанец былі гатовыя абмяркоўваць супрацоўніцтва з ДЮСШ-4 і трэнерамі.

Памятаю, як тэлефанавала я Аляксандру Гармазе з прапановай прыйсці ў рэдакцыю і як ён мне адказаў, што пакуль там Мятліцкі, яго нагі там не будзе.

Ну, адкуль гэтая няздольнасць разумных, дарослых людзей прызнацца сабе ў тым, што калі б яны прыйшлі да ўзаемапаразумення, каманда толькі выйграла б. Гармаза – таленавіты трэнер, Любанец – таленавіты адміністратар.

Мы можам да адурэння спрачацца на форумах і вінаваціць у сітуацыі і трэнераў, і гульцоў, і журналістаў, і ўлады.

А па факце застаецца адно – змірыцца з тым, што заўзець сёлета будзем за "Іслач". І марыць пра тое, што ў Маладзечне які-небудзь заўзятар адшукае скарб ці нафтавую свідравіну або залежы алмазаў. Тады, можа, у каманды з'явяцца грошы?




**На гэтым фотаздымку Ларысе Пятрэнцы, яна ў цэнтры, 56 гадоў. Наперадзе – чарговы паўмарафон.**
Фота забяспечанае Ларысай ПЯТРЭНКАЙ.

# Наш арганізм – млын. Раскруціць у іншы бок ніколі не позна

МАЛАДЗЕЧНА

**Прыклад маладзечанкі Ларысы Пятрэнкі можа быць наглядным дапаможнікам для тых, хто лічыць, што ў 40 гадоў не позна пачынаць бегаць, а ў 70 – самы час паступіць у інстытут.**

Сёння Ларыса Пятрэнка пачынае кожны свой дзень з прабежкі ў парку з сабакам, вядзе гурток настольнага тэніса ў школе-інтэрнаце і марыць пра тое, каб перадаць свой жыццёвы досвед моладзі.

А яшчэ 34 гады таму здавалася, што жыццё скончанае. Ларыса захварэла, яе звольнілі з працы.

Але жыццё змяніў адзін дзень – 24 мая 1982 года.

– Па тэлебачанні ішла перадача пра здаровы лад жыцця. Яе вядучы тады сказаў адну фразу, якую захацелася выпрабаваць на сабе – "Калі хочаш быць здаровым – бегай, калі хочаш быць прыгожым – бегай, калі хочаш быць разумным – бегай!".

На наступны дзень, 25 мая, Ларыса Фёдараўна была на стадыёне.

У першы дзень прабегла недзе 150 метраў. Але назаўтра цвёрда вырашыла, што пойдзе зноў і прабяжыць на 10 метраў болей.

Ад 25 мая да 28 жніўня Ларыса Пятрэнка не прапусціла ні аднаго дня.

– У канцы жніўня стала на вагі. Аказалася, што я з 96 кілаграмаў схуднела да... 95. І гэта была вялізная перамога. Тым больш, што ні тады, ні цяпер рэжым харчавання я не мяняла. Што было смачна, тое і ела. У наступныя два з паловай гады схуднела на 25 кілаграмаў.

А яшчэ праз пару гадоў прабегла свой першы марафон. Тады Ларысе было 50 гадоў.

– Бегала да 2000 года. За сваё спартыўнае жыццё здужала прабегчы 19 марафонаў. І ведаеце, ужо 30 год не п'ю таблетак.

### У 70 год стану студэнткай! – Ідзём у заклад?

Ларыса Фёдараўна да сваіх 70 гадоў мела разрад па плаванні, па шахматах, па настольным тэнісе.

Прыйшла ўладкоўвацца на працу кіраўніком гуртка, а ёй адказваюць: "Выбачайце, у вас няма патрэбнай адукацыі".

– Ах, так? Значыць, будзе! – адказала Ларыса Пятрэнка і паступіла ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт фізічнай культуры. – Я была амаль выдатніцай. Толькі адна сямёрка ў дыпломе, па методыцы выкладання фізкультуры.

Вось цяпер дыпламаваным спецыялістам вядзе гурток настольнага тэнісу. Мае чатырох унукаў і праўнучку.

– Я жартую, што ў мяне трое разумных унукаў і адзін акцёр. Але ўнукамі я ганаруся.

Вядома, Ларысе Фёдараўне ніхто не дае яе 76 гадоў.

– Я і апранацца добра люблю. Кампенсую за беднае дзяцінства, калі ў школу даводзілася хадзіць у мамiным паліто на шэсць памераў большым.



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Так Ларыса Фёдараўна выглядае сёння. Белыя пальчаткі і святочная блуза – падарунак нявесткі.**

А наконт здароўя і здаровага ладу жыцця Ларыса Пятрэнка кажа:

– Наш арганізм як млын. Трэба раз спыніцца і раскруціць яго ў іншы бок. І другая маладосць гарантаваная.

**Наталля ТУР.**

## "Вілія" і "Ашмяны" выйшлі ў вышэйшую лігу чэмпіянату

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

Заключны тур у групе "Поўнач" чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе прайшоў 6 лютага.

У Смаргоні сустракаліся два лідары групы: мясцовая "Вілія" і "Легенда" з Іўя. Ва ўпартай барацьбе госці абыгралі смаргонцаў з лікам 7:6.

– Матч атрымаўся нібы на арэлях, больш чым на адзін гол ніхто не адрываўся. То яны лідзіравалі, то мы, – расказвае гулец "Віліі" **Віталь Будай**.

Ключавым момантам матча стала выдаленне гульца "Віліі" пры ліку 5:4 на карысць смаргонцаў.

– Яны адразу ж рэалізавалі лішняга, зраўнялі лік. Праз пару імгненняў яшчэ адзін мяч забілі, – працягвае Віталь. – Мы кінуліся адыгрывацца і неўзабаве зраўнялі лік. На куражы і далей працягнулі насядаць і прапусцілі контратаку за пару хвілін да канца гульні. Лік зраўняць ужо не паспелі. Лічу, на выніку адбілася і адсутнасць асноўнага варатара, які атрымаў траўму ў мінулай гульні.

"Ашмяны" дома згулялі з "Навагрудкам" унічыю 2:2 і ўтрымалі за сабой трэцяе месца. Гэта дазволіла ім разам з "Легендай" і "Віліяй" трапіць у вышэйшую лігу чэмпіянату, якую ўтвараюць па тры лепшыя каманды з груп.

У фінальнай стадыі каманды будуць гуляць па крузе з тымі камандамі, з якімі яшчэ не гулялі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Настасі РОЎДЫ.

Рыбак з Маладзечна Віктар Лукашэвіч другі раз трапіў у такую гісторыю.

## "Мяне гнала па лёдзе цэлы кіламетр"

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

Моцны вецер, пра які сіноптыкі папярэджвалі ў аўторак, 2 лютага, сыграў злы жарт з зацятым рыбаком з Маладзечна Віктарам Лукашэвічам.

– Рыбачыў я на Вілейскім вадасховішчы, калі раптам падзьмуў моцны вецер, – расказвае рыбак.

Рыбачыў Віктар ля месца Чыжэвічы. А парыў ветра аднёс яго разам з палаткай, акулярамі, рыбацкімі снасцямі і тэрмасам аж да Касуцкага моста.

– Гнала мяне па лёдзе недзе кіламетр. Проста каціўся, не было за што зачапіцца. Толькі праз кіламетр, калі на лёдзе з'явіўся сняжок, я змог легчы і ўтрымацца ад ветру.

А вось палатку і ўсю маёмасць вецер пагнаў да лесу.

– А самае крыўднае, што ўжо налавіў кілаграмы тры рыбы, якая таксама ператварылася ў "лятучую". Палянцела разам з палаткай.

**Калі вы знаходзілі згубленыя рэчы Віктара – тэлефануйце ў рэдакцыю па нумары 8 (0176) 76-96-67.**

### Досвед не ратуе

Гэта ўжо другі выпадак, калі Віктара Лукашэвіча зносіць ветрам.

– Тады таксама з-за моцнага ветру не змог утрымацца на нагах. Мяне аднесла да берагу.

Віктар нарадзіўся ў Карэліі, і першая яго рыбалка адбылася менавіта там, яшчэ калі ён быў малы.

Таму досвед у яго вялікі, але стыхія – рэч непрадказальная.

Наталля ТУР.



Фота Настасі РОЎДЫ.

Танец з веерамі танцавальнага калектыву "Эксклюзіў" маладзечанскай школы-інтэрната №2 для дзяцей з парушэннямі зроку.

# Школа-інтэрнат паказала канцэрт да "Вясёлкавага карагода"

МАЛАДЗЕЧНА

**Вучні маладзечанскай школы-інтэрната №2 для дзяцей з парушэннямі зроку падрыхтавалі восем творчых нумароў для XI рэспубліканскага фестывалю мастацкай творчасці "Вясёлкавы карагод", які ладзяць раз на тры гады.**

У фестывалі бяруць удзел выхаванцы дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў, спецыяльных школ і цэнтраў карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі.

Сярод прапанаванай праграмы маладзечанскай школы-інтэрната №2, паказанай 8 лютага, – пяць песень, два танцы і інсцэніроўка. Якія нумары ўвойдуць у гала-канцэрт фестывалю, пакуль невядома.

Як адзначае дырэктарка школы **Наталля Глінская**, узровень конкурсных нумароў нашмат вырас:

– Па выступленнях нашай каманды можна гаварыць пра тое, наколькі высокі ўзровень конкурсу. Фестываль адзінаццаты, я дырэктарка ўжо адзінаццаць год, і разам мы ўдзельнічаем чацверты раз. Прыемна чуць і ад сяброў журы, і ад калег, што наша ўстанова вырасла ў творчым плане. Тры нумары дакладна ўвойдуць у гала-канцэрт, і гэта вельмі прыемна, таму што ён пройдзе ў Маладзечне.

Як распавяла вядоўца канцэрта сямікласніца **Кацярына Каржова**, актыўныя рэпетыцыі і прагоны цягнуліся апошні тыдзень.

Адным з самых яскравых нумароў праграмы стаў "Танец з веерамі" танцавальнага калектыву "Эксклюзіў". На апладысменты зала не скупілася, бо сінхронныя рухі з веерамі выглядалі сапраўды феерычна.

Тэатральная сцэнка "Муха-цакатуха" распавядала пра шкоду курэння. Муха запрашала іншых персанажаў казкі на цыгарэту, а тыя адмаўляліся з самых розных прычын: у каго здароўе, у каго спорт. Так што ў выніку Муха кінула дурную задуму.

У вакальных нумарах былі як сольныя выканаўцы, так і трыа.

**Дыяна Галагуш** удзельнічала ў некалькіх нумарах: і ў трыа спявала, і танцавала.

– Я ў школе з сямі гадоў, але танцамі занялася нядаўна, захацела сама. Спяваю ўжо досыць даўно, гадоў пяць. Падабаецца і тое, і другое, бо гэта прыносіць задавальненне, – кажа Дыяна. – Можа, атрымаецца звязаць з гэтым сваю будучыню.

І конкурсы падштурхоўваюць да гэтага. Праўда, Наталля Глінская заўважае, што перамога ў іх зусім не галоўнае:

– Галоўнае, што падчас падрыхтоўкі разам працуюць настаўнікі, тэхнічныя работнікі, бацькі і дзеці. Гэта збліжае, прыносіць вялікае задавальненне. Калі ж яшчэ ёсць і добры вынік – прыемна ўдвайне. Я заўсёды кажу і сваім работнікам, і бацькам, каб яны больш часу праводзілі з дзецьмі. Я ўзгадваю, як сама калісьці рабіла пельмені разам са сваёй маці. А цяпер што? Пайшоў, купіў, і ўсё.

Журы адбярэ нумары для гала-фестывалю, калі прагледзіць нумары іншых устаноў адукацыі.

Настасся РОЎДА.

## Цягнік насмерць збіў мужчыну, які ехаў на ровары ў навушніках

МАЛАДЗЕЧНА

Трагічны выпадак адбыўся ў 16:23 учора, 9 лютага.

Пра здарэнне "РГ" паведаміў інспектар прапаганды Маладзечанскага АУСТ **Сяргей Васілеўскі.**

Сутыкненне адбылося на чыгуначным пераездзе на перагоне Пруды-Залессе.

Прыпынкачны пункт "Заскавічы" праязджаў грузавы цягнік Маладзечна-Кена. У гэты момант праз чыгуначны пераезд ехаў мужчына на ровары. Ён не рэагаваў на гучныя сігналы машыніста, і цягнік яго смяротна траўмаваў.

Пасля высветлілася, што 38-гадовы мужчына быў у навушніках ад мабільнага тэлефона.

Загінулы жыў у вёсцы Готкавічы.

Зоя ХРУЦКАЯ.

## Пагуляйце ў Дзень закаханых у настольныя гульні

МАЛАДЗЕЧНА

Імпрэза пройдзе 14 лютага ў канферэнцзале бібліятэкі "Верасок". Пачатак у 13:00, заканчэнне – у 17:30.

Падарожжа ў свет настольных гульняў задзіць **Генадзь Грыневіч** з Мінска. Запрашаюцца пары любога ўзросту, у тым ліку сямейныя.

Арганізатары абяцаюць, што будзе цікава, карысна і весела.

Тэлефон для даведак: **76-03-43**.

Аддзел інфармацыі.

НАВІНЫ СПОРТУ

## "ІП Мядзел" і "Зубраня" атрымліваюць па трэцяй перамозе

МЯДЗЕЛ

Усе гульні трэцяга тура чэмпіянату па мініфутболе прайшлі 3 лютага. Каманда райвыканкама перайграла прадстаўнікоў Крывіцкага спецыяльнага ПТВ №3 закрытага тыпу 9:4.

ФК Union Naroch зноў прапусціў 18 галоў. На гэты раз ад "ІП Мядзел". Лік сустрэчы 18:0 на карысць мядзяльчан. "Юнацтва" перайграла каманду аддзела адукацыі, спорту і турызму 8:1.

"Спадарожнік" у першым тайме годна супраціўляўся "Зубраняці" – скончыўся тайм з мінімальнай перавагай апошніх 2:1. Але дапамог досвед гульцоў "Зубраняці". У выніку – іх перамога 5:2, расказаў дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак**.

Каманда райаддзела на надзвычайных сітуацыях знялася са спаборніцтваў, і лік матча з ёй анулявны.

Лідзіруе пасля трох тураў каманда "ІП Мядзел", "Зубраня" – на другім месцы. У абедзвюх камандаў па тры перамогі, але ў мядзяльчан лепшая розніца мячоў.

## Маладзечанцы заваявалі бронзу ў фінале Кубка па мініфутболе

МАЛАДЗЕЧНА

У фінале Кубка Мінскай вобласці па мініфутболе гонар рэгіёна абаранялі футбалісты Маладзечанскага раёна, якія атрымалі перамогу на папярэднім этапе.

Фінальныя гульні прайшлі 6-7 лютага ў Барысаве.

Па інфармацыі абласной федэрацыі футбола, маладзечанцы атрымалі дзве перамогі: над камандамі Чэрвеньскага раёна 2:1 і Жодзіна 6:5. Сыгралі ўнічыю з камандай Салігорскага раёна 3:3. Прайгралі маладзечанскія футбалісты толькі камандзе з Барысава 2:4.

У выніку каманда Маладзечанскага раёна заняла трэцяе месца. Перамаглі на турніры прадстаўнікі Салігорскага раёна.

Алесь ВЫСОЦКІ.

МЕРКАВАННЕ

## Маладзечну патрэбная мастацкая галерэя

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечна стала культурнай сталіцай.**

І гэта нездарма. Горад славіцца знакамітымі калектывамі, якія атрымалі званне "заслужаны", "народны", іх больш за 30. Таксама тут функцыянуюць 16 устаноў культуры і мастацтва. Але ў культурнай сталіцы няма мастацкай галерэі.

### Сотні карцін пыляцца ў кватэрах

У горадзе шмат творчых людзей, якім ёсць што паказаць, многа таленавітых дзяцей, здольнасці якіх трэба развіваць.

Сотні выдатных карцін маладзечанскіх мастакоў ляжаць у кватэрах, пыляцца ва неўладкаваных студыях. Яны чакаюць свайго гледача, які б мог прыйсці ва ўтульную, светлую і прасторную залу выставачнай галерэі, каб убачыць выдатныя работы, стаць духоўна багацей ці проста больш культурным. Ці не гэта галоўная задача, якая сёння стаіць перад намі, – зрабіць людзей больш духоўнымі і адукаванымі.

У горадзе ёсць некалькі выставачных пляцовак, але ўсе яны невялікія. Для галерэі трэба прасторнае памяшканне, здольнае змясціць не толькі пастаянна дзеючую выставачную залу, але і гарадскі мастацкі музей, каб захоўваць экспазіцыі лепшых карцін.

### У горадзе мала сувеніраў

Сувенірная прадукцыя ў нашым горадзе знаходзіцца на жаласным узроўні. Турыстам і гасцям практычна няма чаго купіць на памяць. У галерэі была б магчымасць стварыць салон-краму для продажу мастацкай прадукцыі, прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва мясцовых рамеснікаў і ўмельцаў.

Мастацкія галерэі ва ўсім свеце адлюстроўваюць інтарэсы мастакоў-прафесіяналаў, але самым важным з'яўляецца глядач, яго эмоцыі, настрой, бо менавіта тут ён сутыкаецца з мастацтвам. Чым больш галерэй, тым больш людзей уключаецца ў гэтую арбіту, тым мацнейшым становіцца духоўны складнік грамадства. Ёсць надзея, што ў год культуры і ў нашым горадзе з'явіцца астравок выяўленчага і дэкаратыўнага мастацтва ў выглядзе мясцовай галерэі.

**Алена СКОБЛА.**

**Артыкул пра сувеніры чытайце на 6-й старонцы.**

# Прайсціся па былым парку шляхціца Любанскага, знайсці любецкі валун

## Турыстычны маршрут па заходняй Вілейшчыне

*Артыкул прысвячаю сваім бацькам Анастасіі і Івану Трубачам, чыя малая радзіма знаходзіцца менавіта ў гэтым радыусе – Любках і Слабадзе.*

ВІЛЕЙКА

**Бясснежныя пейзажы за акном спрыяюць падарожжу, таму збіраемся ў дарогу. Вас чакае турыстычны маршрут – "Любанскі радыус".**



**Любецкі валун мае даўжыню 2 метры, шырыню 1,7 метра, вышыню 1,35 метра. Мае прасападобную форму, адшліфаваную паверхню і круглявыя бакі.**
Фота radzima.org.

Падчас падарожжа вы пройдзецеся па былым парку шляхціца **Любанскага**, даведаецеся назву месца, дзе адбылася бітва царскіх войскаў і касінераў, пабачыце царкву 1929 года. Дазнаецеся, дзе цяпер знаходзіцца капліца ў Каралеўцах і любецкі валун, а таксама як выглядаў іжанскі вадзяны млын.

Маршрут пройдзе па заходняй Вілейшчыне праз Любань, Любкі, Каралеўцы, Іжу, Слабаду.

### У Любані была пушча

Упершыню вёска згадваецца ў 1780 годзе. Але пад назвай Юхавічы, якая паходзіць ад Юхавіцкай пушчы, што раней знаходзілася тут. На той час галоўнай асаблівасцю паселішча была карчма.

Далей гісторыя мястэчка звязваецца з Кацярынай Другой, якая падчас аднаго з падзелаў Рэчы Паспалітай прадала вёску генералу **Бергману**. Яго дзеці здалі Юхавічы ў арэнду шляхціцу Івану Любанскаму. Ён быў мэтанакіраваным чалавекам: у 20 гадоў быў камісарам, пабудаваў сабе рэзідэнцыю на рацэ Вужы, заклаў парк, у якім раслі ліпы Мальтке, кедравыя хвоі, туі, стварыў аранжарэю.

Шляхціцу не падабалася, што яго суседзі простыя сяляне, таму перасяліў іх ва ўрочышча Казюткі. Яны забралі з сабой і назву мясціны – Юхавічы. Сядзібу ж шляхціц назваў Любань. Аднак у хуткім часе яна згарэла, маўляў, людзі праклялі за пераезд. Стайню перабудавалі пад палац. Але ад яго нічога не засталося. А вось некаторыя гаспадарчыя пабудовы захаваліся: бровар, лядоўня, аранжарэя, хата, у якой жыла прыслуга.

### Царкву будавалі "ўсім светам"

Падчас узброенага паўстання 1830 года ў маёнтку жыў пляменнік Івана Любанскага – **Віктар**. Адступаючы з Вілейкі, ён даў бой у Любані.

А падчас паўстання 1863 года праз вёску ішоў атрад пад кіраўніцтвам **Густава Чаховіча** на злучэнне з атрадам **Козела Паклеўскага**. Але рускія войскі разбілі паўстанцаў у лагчыне паміж Каралеўцамі і Любкамі. Сёння яна завецца Біты Лог.

У часы БССР Любань была цэнтрам аднаго з лепшых саўгасаў.

У пачатку 2000 года тут з'явілася царква ў гонар беларускіх святых. Будавалі яе "ўсім светам" – за ахвяраванні мясцовых жыхароў.

### Каралеўцы раней называліся Іжай

Рухаемся далей. Адразу пераехаўшы мост праз раку Нарачанку, перад намі паўстае вёска. У вочы кідаецца памятны валун, усталяваны ў гонар першага ўспаміну Каралеўцаў у летапісах (1443 год). Але ў гэтым годзе яна называлася па-іншаму – Іжа. Менавіта гэты факт знайшоў краязнаўца і даследчык гісторыі беларускага Павілля **Анатоль Рогач**.

Накіроўваючыся ў цэнтр, можна трапіць на рэшткі былога сельскага клуба, школы і бібліятэкі. Ад бібліятэкі захавалася толькі пабудова. Я знайшла там выпускі часопісаў "Наука и религия" за 1961 год, "Народная асвета" за чэрвень 1960 года. Яны ляжалі на падлозе.

### Капліца з Каралеўцаў пераехала пад Мінск

Найбольшай цікавасці заслугоўвае капліца ў Каралеўцах.

Згодна з "Памятной книгой виленского генерал-губернатора за 1868 год", яе пабудавалі ў 1802 годзе "тщанием крестьянина **Александра Рогача**", а званіцу – у 1808 годзе.

Рамантавалі яе ў сярэдзіне 19 і першай палове 20 стагоддзя. Але да канца стагоддзя дах пачаў абвальвацца. А ў 1986 годзе ўсё, што засталося ад капліцы, перавезлі ў Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту, што ў Азярцы пад Мінскам. Неўзабаве пачалася рэстаўрацыя.

Паралельна супрацоўнікі музея аднаўлялі інтэр'ер храма. Ён змяніў як канфесійную прыналежнасць – яго будавалі як грэка-каталіцкі храм, а стаў праваслаўным, так і прызначэнне – ад могілкавай капліцы да прыходскай царквы.

У Каралеўцах жа на месцы былой капліцы ўзвялі новую ў гонар Мікалая Цудатворца (2008 год).

Калі ў вас ёсць жаданне пабачыць не новую капліцу на месцы старой, а старую, трэба ехаць у Азярцо.

Ужо згаданы Біты Лог знаходзіцца на ўскрайку Каралеўцаў. 5 чэрвеня 1863 года тут адбылася бітва паміж касінерамі на чале з Густавам Чаховічам і царскімі войскамі. Атрад Чаховіча быў разбіты, паўстанцаў пахавалі на ўзгорку каля Вутак. Пазней брацкую магілу знішчылі.

### Любецкі валун можна ўбачыць у Вілейцы

Адразу пасля калгаснай фермы пачынаецца вёска Любкі. Тое, дзеля чаго сюды варта было прыехаць, – любецкі валун з ямкамі па рашэнні Мінпрыроды перавезлі ў Вілейку.

Помнік адкрылі ў 1997 годзе **Валеры Вінакураў** і **Аляксандр Зайцаў**, з таго часу валун з'яўляецца помнікам прыроды рэспубліканскага значэння.

### З царквы зрабілі склад, потым музей

Напярэдадні, за бярозавым гасцінцам, нас чакае Іжа. Першапачатковая назва – Іжа Кішчанская (Кішчанцы).

У Іжы ёсць царква Святога Іосіфа Абручніка (1929 года).

У 1963-1989 гадах у ёй месціўся склад, затым музей калгаса "Рассвет". У 1990 годзе храм аддалі праваслаўным вернікам.

Ад першай паловы 20 стагоддзя на беразе Нарачанкі быў драўляны вадзяны млын.

У цэнтры вёскі ёсць мемарыяльны комплекс, прысвечаны памяці 128 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Ён пабудаваны ў 1967 годзе.

Апошні пункт маршруту – Слабада. Вёска, якая раней мела сваю царкву, аднак за саветамі страціла яе. Паблізу знаходзіцца прыгожае і шчодрае на рыбу возера – Слабадскае.

На гэтым заканчваецца наша падарожжа. Магчыма, у вас ёсць, што дадаць да любанскага радыуса? Падзяліцеся!

### Рачны слоўнік вёскі Іжа

**Гатар** – тартак.
**Стаў** – 1) плаціна, 2) сажалка, вадасховішча, пойма ракі са стаячай перад плаціной вадой.
**Джыгаць, джгаць** – скакаць у ваду нагамі ўніз.
**Даваць нурца, нурцаваць** – ныраць. Толькі галавой уніз!
**Жылка** – рыбацкая лёска.
**Бродзень** – браднік. Сетка на рыбу, з якой упраўляюцца трое мужчын.
**Вангор** (гэ выбухное) – вугор.



**Воля ТРУБАЧ.**
E-mail: ydaroze@mail.ru.

**Камент-эксперт**

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы**

**Rh.by**

**ці ў суполках газеты ў сацсетках**

**Чытачы аддалі перамогу ў конкурсе "Натхняй сваёй гісторыяй здароўя" Васілю Лябецкаму**

Хачу падзякаваць усім чытачам, якія аддалі свае галасы за мяне. З вашай дапамогай я і перамог у гэтым конкурсе. Жадаю ўсім поспехаў у справах, удачы і, самае галоўнае, здароўя! Яшчэ раз шчыры дзякуй! ***Васіль Лябецкі.***

**Эксперт наконт будаўніцтва свінакомплексу на Маладзечаншчыне на 100 тысяч галоў**

Ведаеце!!! Усе супраць, але як толькі паўстае пытанне пра працаўладкаванне, то стаяць чэргі! ***Яўгенія.***

**Беларусам будуць выплачваць узнагароджанні за дапамогу ў барацьбе з карупцыяй**

Тунеядцам новы від заробку. ***Вольга.***

**На Валожыншчыне распусціліся пупышкі (Фотафакт + прагноз надвор'я на тыдзень)**

Учора былі на Вілейскім вадасховішчы. Сыночкі мне таксама падарылі букецік коцікаў. Гэта так нечакана ў лютым. ***Людміла.***

**Чытач пытае: "Чаму два дні трэба, каб атрымаць даведку ў Вілейскай паліклініцы?"**

А навошта паказвацца тэрапеўту раз у год, калі мяне, напрыклад, нічога не турбуе? Толькі час аднімаць. Ёсць і іншыя справы. ***Таня.***

**"Мяне гнала па лёдзе цэлы кіламетр". Маладзечанскі рыбак просіць дапамагчы знайсці палатку**

Няўжо рыба даражэй за жыццё? ***Яўген.***

# На сайце rh.by мы адкрылі рубрыку "Усё для нашых дзетак"

**На нашым сайце rh.by з'явілася новая рубрыка для бацькоў і дзяцей.**



З нараджэннем маленькага чалавечка ў сям'і з'яўляецца многа радасці, але і прыемных клопатаў дадаецца. Дзе набыць ложак, якую каляску выбраць...

Па меры таго, як расце дзіця, бацькі задумваюцца, у які гурток яго аддаць, як развіваць творчыя і разумовыя здольнасці, як выхаваць генія. На гэтыя і многія іншыя пытанні вы знойдзеце адказы ў новай рубрыцы – "Усё для дзетак".

На сайце ёсць тры падобныя праекты. Рубрыка "Усё для дамашніх любімцаў" дапаможа атрымаць карысную інфармацыю тым, у каго ёсць дамашнія жывёлы.

Калі не ведаеце, дзе адзначыць любую ўрачыстасць, звяртайцеся да рубрыкі "Пальчыкі абліжаш".

Рубрыка "Стыль і прыгажосць" падкажа жанчынам, як заставацца прыгожай.

**Аддзел інфармацыі.**

● ТЭАТРЫ

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Не такі, як усе**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Аляксей Слапоўскі*
12 лютага – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Вакзал на траіх**" (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
19 лютага – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.



## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Доктар Айбаліт**" (казка-прыгода), *В.Карастылёў*, бел.
14 лютага – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**



● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | 4 | 2 | 1 | 9 | | |
| | | | | 9 | | | 6 | 4 |
| | | 7 | 6 | | | 1 | | |
| | | | | | | 8 | 2 | |
| 1 | | | | | | | | 6 |
| | 9 | 5 | | | | | | |
| | | 9 | | | 6 | 2 | | |
| 5 | 7 | | | 4 | | | | |
| | | 4 | 5 | 1 | 9 | | | 3 |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

● КІНО

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кунг Фу Панда 3**" (3D, ЗША, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
13 лютага – у 15:40
14 лютага – у 14:20
Цана білета: 55 000 рублёў

Дзіцячы, прыгоды "**Маё піянерскае**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
13 лютага – у 13:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Драма "**Фартуна**" (Беларусь, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
17 лютага – у 17:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**30 спатканняў**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
12 лютага – у 17:40
13 лютага – у 17:50
14 лютага – у 16:30
15 лютага – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер, драма "**І пачуўся шторм**" (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
12 лютага – у 19:40
13 лютага – у 22:00
14 лютага – у 18:30
16 лютага – у 18:40
Цана білета: 55 000 – 60 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер "**Дэдпул**" (ЗША, Канада, 2015, пасля 18 год)
12 лютага – у 22:00
13 лютага – у 19:50
14, 16 лютага – у 21:00
15, 17 лютага – у 18:50
18 лютага – у 21:10
Цана білета: 45 000 – 50 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Стаўка на каханне**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
17 лютага – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Мультфільм, камедыя, прыгоды "**Кракнутыя канікулы**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
18 лютага – у 17:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Дзень выбараў 2**" (Расія, 2015 да 12 год у суправаджэнні дарослых)
18 лютага – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кунг Фу Панда 3**" (3D, ЗША, Кітай, 2015)
13 лютага – у 12:40, 14:50
14 лютага – у 13:00, 15:20
Цана білета: 65 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**30 спатканняў**" (Расія, 2015)
14 лютага – у 19:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Статус: Свабодны**" (Расія, 2015)
13 лютага – у 17:00
14 лютага – у 17:30
16 лютага – у 21:30
Цана білета: 55 000 рублёў



Прыгоды, трылер, драма "**Выжыўшы**" (ЗША, 2015, пасля 18 год)
17 лютага – у 18:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Стаўка на каханне**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
12 лютага – у 21:00
13 лютага – у 19:00
14 лютага – у 21:30
15, 18 лютага – у 19:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер "**Дэдпул**" (ЗША, Канада, 2015)
12 лютага – у 18:40
13 лютага – у 21:00
15, 17 лютага – у 21:30
16 лютага – у 19:10
Цана білета: 55 000 рублёў

Прэм'ера! Чорная трагікамедыя "**ГараШ**" (Беларусь, 2015, пасля 16 год)
18 лютага – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастыка, прыгоды, трылер "**Гонар перадузятасці і зомбі**" (ЗША, 2015, пасля 16 год)
18 лютага – у 21:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Тэлефон: (80176) **77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кунг Фу Панда 3**"(3D, ЗША, Кітай, Расія, без узроставых абмежаванняў)
12 лютага – у 17:50
13 лютага – у 14:40
14 лютага – у 13:00,17:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**30 спатканняў**" (Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
12 лютага – у 19:30
13 лютага – у 16:30
14 лютага – у 19:10
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер, драма "**І пачуўся шторм**" (3D, ЗША, пасля 16 год)
12 лютага – у 21:30
13 лютага – у 18:30
14 лютага – у 21:10
Цана білета: 55 000 рублёў

Дзіцячы, прыгоды "**Маё піянерскае 2**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
13 лютага – у 12:50
Цана білета: 25 000 рублёў

Трылер, драма, прыгоды "**Выжыўшы**" (2D, ЗША, з 18 год)
13 лютага – у 20:30
Цана білета: 50 000 рублёў
14 лютага – у 14:40
Цана білета: 40 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма "**Ведзьма**" (Расія, з 16 год)
12 лютага – у 18:10
13, 14 лютага – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Жахі "**Воўчае логава**" (ЗША, з 18 год)
12 лютага – у 20:00
13, 14 лютага – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Чароўнае каралеўства Шчаўкунка**" (Перу, без узроставых абмежаванняў)
13, 14 лютага – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Драма "**Фартуна**" (Беларусь, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
13, 14 лютага – у 17:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Тэлефон для даведак: (801771) **5-68-59**

● ГАРАСКОП
12-18 ЛЮТАГА



**Авен.** Калі Месяц расце, то расце і энергетычны патэнцыял любога арганізма. А таму гэты час лічыцца спрыяльным для пачатку новых спраў, прынясіце важных рашэнняў.



**Цялец.** Калі ў вас дрэнны настрой – ешце цытрусавыя, гуляйце па сонейку – вітаміны С і Д неабходныя вам. Пацешце кавалачкам шакаладу. Абавязкова высыпайцеся і не перагружайце сябе сумнымі справамі.



**Блізняты.** У вас ёсць два кірункі. Першы – заняцца сваім домам, нікуды асабліва не рваціца. Гэта нельга назваць адпачынкам, але ўсё ж стан спакою. Іншы, увязацца ў актыўную дзейнасць. Вынікі будуць, але затрачаных сіл будзе нашмат больш. Выбар за вамі.



**Рак.** Цяпер фінансы не прадказваюць палпшэння. А ў вас з'яўляюцца жаданні, якія не ўпісваюцца ў вашы магчымасці. Трошкі "прыцішце хаду", пасля сітуацыя выправіцца.



**Леў.** Смела ідзіце за сваёй марай, асабліва калі яна носіць матэрыяльны характар. Але калі і іншы, вашаму поспеху гэта не перашкодзіць.



**Дзева.** Находзіць адсутнасць радасці і расчаравання, а менавіта стан, калі нічога не трэба і не хочацца. І гэта добра. Бо ў іншым выпадку вы маглі б нарабіць чаго непажаданага.



**Шалі.** Спрыяльны перыяд для фінансавых спраў, хаця магчымае і незадавальненне тым, што адбываецца. Набярыцеся сіл і вазьміце сябе ў рукі.



**Скарпіён.** Вам то трэба будзе працаваць практычна да сёмага поту, то ў нейкія моманты ніякіх намаганняў не запатрабуецца.



**Стралец.** Не гуляйце з агнём, але і не бойцеся яго, бо ён жа не апячэ, пакуль вы самі не засунеце ў яго руку. Так і ў асабістым жыцці.



**Казярог.** Цяпер перспектыўны час не толькі для вас, але і для тых, хто знаходзіцца з вамі побач. Праўда, для ўдачнага збегу абставін прыйдзецца добра пастарацца.



**Вадалей.** Не дапускайце сітуацый, якія вас не задавальняюць, гэта значыць, старайцеся загадзя ўгледзець магчымы негатыў, каб абысці яго бокам. Сфера ўласных адносін адыдзе на другі план, і гэта дасць вам магчымасць адпачыць.



**Рыбы.** Не спяшайцеся прымаць важныя рашэнні, парайцеся з людзьмі, якія разбіраюцца ў канкрэтным пытанні.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006
Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

**13 лютага, субота**

| | Пятніца | | | Субота | | | Нядзеля | | | Панядзелак | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +2 / +2 | 736 | ↗ 3 | +1 / +3 | 736 | ↖ 6 | +2 / +3 | 731 | ↖ 6 | +4 / +5 | 734 | ↑ 6 |
| Вільня | +2 / +3 | 742 | ↗ 4 | +2 / +5 | 743 | ↖ 7 | +3 / +5 | 737 | ↖ 8 | +5 / +6 | 749 | ↗ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.37
Захад 18.16
Даўжыня дня 9.39

Усход 10.45
Захад –
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -27,2 °С у 1994 годзе
Максімальная тэмпература +5,9 °С у 1995 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 15,6 мм у 1966 годзе
Назіранні за 60 год. Паводле meteoinfo.by

# Конкурс ад "РГ" для настаўнікаў і вучняў: выйграйце электронную кнігу ці смартфон

"Рэгіянальная газета" ладзіць акцыю для чытачоў у гонар Міжнароднага дня роднай мовы, які адбудзецца 21 лютага.

Гэтым разам мы запрашаем настаўнікаў і вучняў паўдзельнічаць у двух розных конкурсах. Абодва конкурсы дзейнічаюць ад 12 лютага. Конкурсныя работы мы прымаем да 19 лютага. Просім удзельнікаў пазначаць нумары тэлефонаў, па якіх рэдакцыя зможа з імі звязацца.

"Рэгіянальная газета" як адзінае беларускамоўнае выданне Павілля ладзіць гэтыя два конкурсы з мэтай падтрымкі беларускай мовы ў сферы адукацыі рэгіёна.

Узнагароджанне пераможцаў адбудзецца 1 сакавіка на курсах "Мова нанова" ў Маладзечне. Курсы праходзяць па адрасе: Вялікі Гасцінец, 121.

## Настаўнікі: за лепшы план урока – электронная кніга

У конкурсе мы прымаем работы настаўнікаў, якія працуюць ці працавалі ў школах рэгіёна. Прымаюцца планы па любым прадмеце, але толькі на беларускай мове.

Удзельнікі могуць дасылаць іх ад 12 да 21 лютага. Планы мы апублікуем на нашым сайце rh.by. Пераможцаў абярэ запрошанае журы, у склад якога ўваходзяць настаўніца хіміі СШ №12 у Маладзечне **Тамара Сіняўская**, настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі "Логас" у Вілейцы **Алёна Балуш**, дырэктар СШ №5 у Маладзечне **Яўген Макарэвіч**. Журы падвядзе вынікі 27 лютага.

Пераможца атрымае ад "Рэгіянальнай газеты" падарунак – электронную кнігу.

## Вучні: напішы эсэ па-беларуску і атрымай смартфон

Для вучняў мы прапануем напісаць эсэ на адну з трох тэм:

1. Дзень, які змяніў маё жыццё.
2. Мой лепшы сябар.
3. Што я раскажу пра свой край чалавеку, які ніколі не быў у Беларусі.



Да ўдзелу прымаюцца работы вучняў 1-11 класаў, якія вучацца ў школах і гімназіях рэгіёна. Работы прымаюцца ад 12 да 21 лютага. 25 лютага на нашым сайце rh.by мы размесцім галасаванне, праз якое чытачы могуць абраць пераможцу конкурсу. 28 лютага галасаванне будзе закрытае.

**Аддзел інфармацыі.**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ад чаго вы не змаглі б адмовіцца нават у часы фінансавага крызісу?



**Таццяна Яхімовіч, кладаўшчыца:**

– На здароўі ніколі эканоміць нельга. Таму не змагла б адмовіцца ад якасных лекаў. І наўрад ці атрымаецца адмовіцца ад салодзенькага, якое любіць і сын, і я сама.



**Мікалай Карлёнак, слесар-рамонтнік:**

– Нельга эканоміць на правільным харчаванні. Ад мяса не змог бы адмовіцца, ды яно цяпер і не такое дарагое ў параўнанні з іншымі прадуктамі. А вось ад аўто лёгка б адмовіўся. І перасадзіў усю сям'ю на ровары, дабірацца на лецішча, якое ў 12 кіламетрах ад горада.



**Тамара Войніч, выхавальніца:**

– Куды ідзе бюджэт? Пераважна на ежу. Вось ад гэтага б і не адмовілася: ад садавіны, вітамінаў. А калі нейкае адзенне ці абутак, то можна купіць і танней. Ці ўвогуле абысціся без абноўкі.



**Валянціна Стахеева, пенсіянерка:**

– Людзі мы звыклыя, можам адмовіцца ад усяго. Многа ад чаго адмовіліся ўжо. Шкадую толькі аб тым, што раней можна было за адпускныя аб'ехаць увесь Савецкі Саюз. А за мяжой я так ні разу і не была. А з такімі цэнамі наўрад ці і траплю.



**Сяргей Грышкевіч, зваршчык:**

– Як не сорамна ў гэтым прызнавацца, але не магу адмовіцца ад курыва. Ну і ад ежы, ад голаду ж дацца можна. А трэба добра есці, каб добра працаваць. Таму што ва ўмовах крызісу галоўнае не адмаўляцца ад работы. І не страціць яе.



**Мікалай Ілюковіч, часова не працуе:**

– Мая сястра з мужам прыязджалі з Сібіры летам, там у іх вялікія цэны, усё дорага. Праўда, і заробкі вялікія. Таму тут яны не эканомілі амаль ні на чым. Купляла мне і сервелацік, і гарошак, і кавуны. А сабе купілі "Буран". Матацыкл такі, па снезе ездзіць, з лыжамі спераду.



**Ірына Апанасовіч, старшы касір:**

– Нельга эканоміць на дзіцячых радасцях. Таму не змагла б не купляць ім садавіну, цукеркі, печыва. Ну і, вядома, нельга эканоміць на здароўі. Будзе здароўе, тады і грошы будуць зарабляцца. І не давядзецца адмаўляць сабе ў нечым.

**Наталля ТУР.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№7 (1085) 12.02.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 132. Падпісана ў друк у 9.00 11.02.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.